*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№494 Сакавік 2004 г.
Год выданьня 54

# Віншуем з 86 угодкамі абвешчаньня незалежнасьці БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

## Віншаваньне Рады БНР



Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з нашым слаўным Днём Волі - 25-м Сакавіком - днём, калі наш народ абвесьціў сьвету ў 1918-м годзе, пасьля доўгіх гадоў зьняволеньня, што ён жыве, што жадае мець сваю ўласную незалежную дзяржаву, што хоча заняць пачэснае месца між іншымі народамі сьвету.

Падчас доўгіх гадоў бальшавіцкае ўлады, калі Масква і яе калябаранты ў Менску стараліся ўсякімі спосабамі сьцерці гэты дзень з нашае памяці, ён быў для беларусаў тым "агеньчыкам", той надзеяй, аб якой наш дарагі Васіль Быкаў гаварыў на сваім апошнім сьвяткаваньні 25-га Сакавіка, год таму ў Празе.

Дык адзначым гэты дзень зь любоўю да свае Бацькаўшчыны, з гордасьцю за сваю спадчыну, за сваю гісторыю, за сваіх продкаў, якія аддана і адважна баранілі сваю зямлю ад захопнікаў, і з радасьцю - бо мы ўсё-ж перамаглі!

Аднак край наш яшчэ ня ёсьць такім, якім мы яго жадаем. Цяжкія ўмовы жыцьця, непавага да людзкіх правоў і да нашай мовы й культуры, пагроза незалежнасьці нашай дзяржавы яшчэ ўсё турбуюць жыцьцё нашага народу. Але-ж ёсьць у нас дзяржава! І Заходні сьвет ніколі так не спрыяў незалежнасьці Беларусі й дэмакратычнаму ладу жыцьця ў нашай краіне, як цяпер.

І цяпер ад нас самых залежыць, ці мы выкарыстаем гэтыя спрыяльныя палітычныя ўмовы й ці зойме нашая дзяржава пачэснае месца між іншымі народамі сьвету, ці не.

Нашым сьвятым абавязкам ёсьць ня толькі абараніць здабытае, але і адбудаваць наш край. Гэта мусіць быць мэта кожнага беларуса, пакуль наш край ня станецца нармальнай эўрапейскай дэмакратыяй, а ўрад наш не пачне працаваць на карысьць Беларусі, а ня штучнай - толькі яму выгаднай - ідэалёгіі.

Дык памажы нам Божа! Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## Прэмія імя Янкі ЮХНАЎЦА

**Літаратурная прэмія імя Янкі Юхнаўца** заснаваная ў сакавіку 2004 году з мэтаю ўшанаваньня памяці выбітнага пісьменьніка-эміграната ды спрыяньня разьвіцьцю літаратуры й присуджаецца ў дзень нараджэньня пісьменьніка - штогод 3 лістапада.

Літаратурная прэмія імя Янкі Юхнаўца - ёсьць прызнаньнем творчасьці Беларускага майстра слова з боку Беларусаў на чужыне.

Ляўрэатам прэміі можа стаць кожны творца ў мэтраполіі ці дыяспары, чые працы, арыгінальны твор або пераклад, у якой кольвечы форме (рукапіс, электронная публікацыя, кніжка, публікацыя ў прэсе. відэа-інсцэнізацыя, аўдыёзапіс) даступныя для азнаямленьня сябрам Прэміяльнага камітэту.

Прэміяльны камітэт самастойна абірае творы для азнаямленьня, а таксама бярэ да разгляду прысланыя па пошце на адрас:

***KRECEUSKI FOUNDATION***
***166-34 GOTHIC DRIVE***
***JAMAICA, N.Y. 11432***

ці на электронны адрас:

***Premija@winterbrood.com***

Прэміяльны камітэт ацэньвае працу прэтэндэнта паводле наступных крытэрыяў:

- твор - нацыянальная літаратурная зьява;
- твор - моўная зьява;
- твор - вольная зьява.*

У Прэміяльны камітэт уваходзяць прадстаўнікі ад Беларускіх нацыянальных арганізацыяў замежжа, якія зьяўляюцца фінансавымі гарантамі прэміі. Кожная арганізацыя мае права ўзяць удзел у фінансаваньні й прызначыць аднаго свайго паўнамоцнага прадстаўніка ў склад Прэміяльнага камітэту. Апрача гэтага, права голасу могуць мець і прыватныя асобы, чые складкі ў фінансаваньні прэміі удвая большыя за складкі арганізацыяў.**

Ляўрэат прэміі таксама мае права на рэдакцыйную і тэхнічную дапамогу з боку Камітэту ў справе выданьня твору.

Ход і присуджэньне Прэміі абвяшчаецца ў газэце ***"Беларус"*** і на ***"Беларускай Палічцы"***.

Сталымі сябрамі Прэміяльнага камітэту зьяўляюцца сябры-заснавальнікі Прэміі, якія пры неабходнасьці могуць мяняць умовы Прэміі:

**Андранік Антанян**, незалежны крытык, Вільня;
**Андрусь Жвір**, "Беларуская Палічка" - www.knihi.com;
**Марат Клакоцкі**, газэта "Беларус" - www.bielarus.org;
**Сяржук Сокалаў-Воюш**, Старшыня Камітэту;
**Лявон Юрэвіч**, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

** Творы напісаныя наркамаўкаю да разгляду не прыймаюцца. У выпадку цікавасьці Прэміяльнага камітэту да таго ці іншага твору даступнага толькі ў наркамаўцы, сябры камітэту могуць зьвярнуцца да аўтара з просьбаю даслаць ім гэты самы твор у клясычным правапісе, што, аднак, не гарантуе атрымання прэміі.*

***Складкі арганізацыяў на 2004 год роўныя 100 далярам ЗША, альбо іхнаму эквіваленту. Стартавы фонд прэміі 500 даляраў ЗША.*

## Сустрэча зь беларускімі журналістамі

У офісе Міжнароднай Лігі Правоў Чалавека ў Нью Ёрку 16 сакавіка адбылася сустрэча з прадстаўнікамі незалежнага друку Беларусі. Гэтымі прадстаўнікамі былі спн. Жана Літвіна, Старшыня Беларускай Асацыяцыі Журналістаў (БАЖ), спн. Сьвятлана Калінкіна, галоўны рэдактар "Беларусской Деловой Газеты", і сп. Вячаслаў Хадасоўскі, галоўны рэдактар газэты "Белорусский Рынок". Таксама былі прысутныя прадстаўнікі місіяў пры ААН ад Галяндыі, Польшчы, Азэрбайджану, Венгрыі й Беларусі. Характэрна, што прадстаўнік Беларусі адмовіўся даць інфармацыю пра сябе. Вядучая, спн. Вольга Тарасаф, прадставіла беларускіх журналістаў і адзначыла, што магчымасьці дзеяньня вольнай прэсы ў Беларусі няўхільна звужаюцца. Ліга дапамагла арганізаваць паездку журналістаў дзеля падвышэньня інфармаванасьці ў вольным сьвеце адносна становішча ў Беларусі.

Спн. Жана Літвіна (БАЖ) пачала выступ па-беларуску і адзначыла, што хацела-б пабачыць сапраўдную роўнасьць абедзьвюх дзяржаўных моваў у Беларусі, але сёньня гэтага няма. Акрэсьліўшы характакр дзейнасьці БАЖ, спн. Літвіна сказала, што ў мінулым годзе ціск на інстытуты грамадзянскай супольнасьці ўзмацніўся, было зачынена 8 газэтаў і 51 недзяржаўная арганізацыя. Сярод праблемаў, зь якімі сутыкаецца БАЖ - захаваньне і разьвіцьцё незалежных медыяў, пагроза прыняцьця рэпрэсыўнага закону аб друку, праблема роўнасьці ворганаў друку ўсіх формаў уласнасьці. На сёньня, нажаль, адбываецца дыскрымінацыя недзяржаўных друкаваных выданьняў. І яшчэ. Ствараецца ідэалягічная прапагандысцкая машына ўплыву на грамадзянаў праз увядзеньне адзінай "дзяржаўнай ідэалёгіі", што фактычна парушае артыкул Канстытуцыі Беларусі аб плюралізме апініяў. З такімі мэтамі прыняты "указ №101", з тыпова савецкай назвою: "Удасканаленьне кадравага забесьпячэньня ідэалягічнай работы". У навучальных установах уводзіцца курс "Асновы дзяржаўнай ідэалёгіі". Такія мэтады - ня што іншае, як апошні спосаб сёньняшняга кіраўніцтва застацца пры ўладзе і забясьпечыць палітычную стабільнасьць.

Затым выступіла спн. Сьвятлана Калінкіна ("БДГ"). Яна адзначыла, што ўлады вядуць мэтадычную працу ў галіне палітычных тэхналёгіяў, заснаваную на маніпуляваньні інфармацыяй. Узначальваюць гэта асобы, што былі або ёсьць у высокіх чынах у КГБ. У выніку амаль усё інфармацыйнае поле знаходзіцца пад кантролем дзяржавы. Незалежныя газэты, што існуюць сёньня, у большасьці рэклямныя і камэрцыйныя. Той, хто наважваецца закранаць палітычныя пытаньні, сутыкаецца з абмежаваньнямі й рэпрэсіямі. Гэта паказальна ў выпадку "БДГ", выданьне якой было прыпыненае ў мінулым годзе і якая сутыкаецца з гэткімі праблемамі з 1996 году. Цяпер газэта вымушаная друкавацца ў Смаленску і мае вялікія праблемы з распаўсюдам. Самае вострае пытаньне цяпер - гэта трэці прэзыдэнцкі тэрмін для Лукашэнкі. Ціск безумоўна будзе ўзмацняцца, і мы думаем аб адэкватнай рэакцыі на такія захады ўладаў. Магчымым крокам будзе рэгістрацыя выданьняў у Расеі й распаўсюд іх як "расейскіх". Пры ўсіх цяжкасьцях думка аб адсутнасьці незалежных выданьняў у Беларусі - памылковая. Яны жывуць, яны дзейнічаюць, нягледзячы на перасьлед, штрафы, праверкі, суды, допыты. І яны спрычыніліся да таго, што рэйтынг Лукашэнкі катастрафічна падае.

Сп. Вячаслаў Хадасоўскі ("Белорусский Рынок") ў працяг выказваньня папярэдняй выступоўцы адзначыў, што рэй-

*Працяг на бачыне 2*

# Падтрымаем толькі родную БАПЦ

Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі (ФРБАА) нядаўна атрымала ліст з Віцебскага абласнога савету дэпутатаў, у якім выказваецца прозьба дапамагчы грашовымі сродкамі ў аднаўленьні ў Віцебску Ўсьпенскага сабору, які будзе належаць Расейскай Праваслаўнай Царкве.

Старшыня ФРБАА Аўген Груша напісаў адказ віцебскім дэпутатам, у якім між іншага гаворыцца: "Сабор быў зруйнаваны на загад з Масквы, то няхай цяпер Масква і адбудоўвае яго. ...Беларусы па ўсім сьвеце стараюцца аднавіць сваю Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, бо Расейская Праваслаўная Царква, якая дзейнічае ў Беларусі цяпер, наносіць вялікую шкоду беларускаму народу распаўсюджваючы русыфікацыю. Вось каб вы там адбудоўвалі нашую БАПЦ, мы-б тут не пашкадавалі й апошняга даляра. На вялікі жаль, для Расейскай Праваслаўнай Царквы ў нас тут не знайшлося ніводнага ахвотніка ахвяраваць грошы...

Ветліва прашу прачытаць гэты ліст на паседжаньні дэпутатаў."

# Узнагарода фільму пра Беларусь

Якою цудоўнаю неспадзеўкаю было пачуць па тэлебачаньні ў нядзелю 29-га лютага сёлета, што кароткі дакумантальны фільм пра Чарнобыль выйграў Оскара ў сваёй катэгорыі. Уявіце сабе захапленьне ўсіх тых, хто апошнія пятнаццаць гадоў жыцьця прысьвяціў дапамозе ахвярам Чарнобыльскай бяды ў Беларусі. Бо-ж як раз пра Беларусь гаварыла ляўрэатка Марыян Дэлеа, дзякуючы за атрыманую ўзнагароду.

З удзячнасьцю падумала я пра Адзі Рашэ, дырэктарку ірляндзкай дабрачыннай арганізацыі "Чарнобыльскі дзіцячы праект", ролю якой падкрэсьліла ў сваіх словах спн. Дэлеа. Маладая ірляндка - надзвычай таленавітая арганізатарка, якая здолела зацікавіць горам ахвяраў Чарнобыля ў Беларусі асобаў пачынаючы ад ангельскіх прынцэсаў да галівудзкіх зорак, адыграла, як выглядае, вялікую ролю ў вытворчасьці фільму. Каб беларусы ведалі, колькі здольны зрабіць адзін чалавек, калі ў нешта верыць, магчыма, быў-бы наш край ужо сёньня ўсімі паважаной эўрапейскай дэмакратыяй.

Для Чарнобыльскіх фондаў у сьвеце ўзнагарода Оскарам будзе безумоўна Богам дадзеным штуршком пасьля васемнаццаці гадоў як адбылася катастрофа. Шторaз цяжэй робіцца маім канадыйскім сябрам прадаўжаць пачатую ў 1989-м годзе працу Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Людзей турбуе тэрарызм, СНІД дзяцей у Афрыцы, бедната ў Аўганістане. А беларускія ўлады робяць шторaз цяжэйшаю працу гуманітарных арганізацыяў.

Трэба толькі неяк прыпомніць сьвету, што чарнобыльскае няшчасьце ўсё яшчэ актуальнае і будзе такім, нажаль, яшчэ доўгія гады.

*Івонка СУРВІЛЛА*

## Сустрэча з журналістамі

*Працяг з бачыны 1*

тынг Лукашэнкі падае не дзеля газэтаў, а дзеля палітыкі, якую той праводзіць. "А нашая роля - інфармаваць людзей пра гэтую палітыку". У Беларусі роля незалежных масавых сродкаў падвышаецца дзеля слабасьці апазыцыі. Такая прэса ніколі ня мела ўнутраных інвэстыцыяў, прыбыткі немагчымыя. Незалежныя выданьні выходзяць мінімальнымі сродкамі, велізарнымі высілкамі, і журналісты, што зьвязаныя з гэтаю справаю - гэта сапраўдныя патрыёты, без перабольшаньня - героі. Заробкі ў дзяржаўных газэтах значна вышэйшыя, але якасьць журналістыкі ў незалежных выданьнях - непараўнальна вышэйшая. "Нашыя журналісты думаюць, аналізуюць, дзяржаўныя - трымаюцца дырэктываў."

Затым выступоўцы адказалі на пытаньні прысутных. У адказах, між іншага, было адзначана, што міжнародная рэакцыя - гэта бадай адзіны й апошні спосаб узьдзеяньня на рэжым. Апазыцыя дэманструе якасныя зрухі, і хоць пакуль масавасьць не дасягнутая, але ёсьць падставы для аптымізму. Бізнэс, зьвязаны ў нейкі спосаб з палітыкай, немагчымы. Рэклямадаўцам небясьпечна супрацоўнічаць з незалежнымі газэтамі, бо гэта можа выклікаць рэпрэсіі з боку сьледчых і падатковых ворганаў. У нармальным грамадзтве праблемы вырашаюцца праз суд, у Беларусі суд - несправедлівы. Інструмантам рэпрэсіяў застаецца артыкул у Крымінальным кодэксе аб паклёпніцтве на прэзыдэнта.

Апошнім было пытаньне пра ўплыў расейска-беларускіх адносінаў на сытуацыю ў Беларусі, пра расейскія медыі. Спн. Літвіна адзначыла, што становішча расейскіх медыяў у сёньняшняй Беларусі нестабільнае, і яны ніколі ня стануць асьвятляць беларускія праблемы, засяроджваца на чыста беларускіх пытаньнях. Таму тэзіс аб дэмакратызацыі праз расейскія масавыя сродкі глыбока памылковы. Беларусь мусіць быць суб'ектам эўрапейскай палітыкі, а не ўспрымаць сьвет і падзеі праз прызму расейскай геапалітыкі, што адбываецца сёньня. Патрэбная свая прэса, арыентаваная на нацыянальныя каштоўнасьці.

Сп. Хадасоўскі адзначыў небясьпеку захопу расейскімі масавымі сродкамі вядучых пазыцыяў у Беларусі. Пакуль беларускія незалежныя выданьні вядуць змаганьне і зьнішчаюцца рэжымам, інфармацыйнае поле здабываецца расейскімі гігантамі кшталту "Камсамольскай праўды". Спн. Калінкіна запярэчыла гэтаму, адзначыўшы, што калі медыі будуць разьдзяржаўленыя, створыцца здаровая канкурэнцыя і магчымасьці для сумленнай працы незалежна ад прыналежнасьці выданьняў. Таксама прагучэлі адказы на пытаньні ад бясьпецы журналістаў, самацэнзуры, накладах незалежных выданьняў ды іншыя.

*Віталь ЗАЙКА*



***На здымку: сядзяць зьлева направа Вольга Тарасаф (МЛПЧ), Сьвятлана Калінкіна ("БДГ"), Вячаслаў Хадасоўскі ("БР").***

# Беларусь у сусьветнай культуры

Уадрозьненьні ад гісторыі Украіны, Летувы, Польшчы й Расеі, гісторыя Беларусі прадстаўленая ў бібліятэках сьвету надзвычай мізэрна. Больш за тое, замежныя навукоўцы й нават гісторыкі вельмі мала ведаюць пра беларускую гісторыю і адпаведна яе выкладаюць. У выніку прэстыж нашай краіны вельмі моцна церпіць, і мы застаемся чорнай правалінай на інтэлектуальнай мапе сьвету.

Адна з галоўных прычынаў такога становішча - адсутнасьць канцэптуальнай інфармацыі пра нашую краіну, дасутпнай у сусьветных бібліятэках і выкладзенай на адной з агульнасусьветных моваў (ангельскай). Амбасадары й удзельнікі іншаземных дэлегацыяў з цяжкасьцю знаходзяць даступную літаратуру па гісторыі Беларусі. Польскія навукоўцы на канфэрэнцыях не разумеюць, чаму беларусы пры дасьледваньні сваёй гісторыі спасылаюцца на раскопкі ў Вільні, некаторыя нямецкія дасьледчыкі пэрыяду Адраджэньня ня ведаюць пра Францішка Скарыну. І з падобнай недасьведчанасьцю замежных навукоўцаў можна сустрэцца на кожнай міжнароднай канфэрэнцыі. Прычына ў тым, што мы не папулярызуем сваю гісторыю ў сьвеце.

Справаю гонару для ўсіх беларусаў стала прадставіць сваю вельмі багатую гісторыю і культуру на сусьветнай арэне. Нам ёсьць чым ганарыцца.

Найбольш даступны й неабходны крок - навукова-папулярнае выданьне гісторыі Беларусі па-ангельску і распаўсюджваньне гэтай кнігі па бібліятэках і навуковых цэнтрах Эўропы й Амерыкі.

Мы прапануем выдаць па-ангельску гісторыю Беларусі, аўтарам якой бачыцца слынны беларускі навуковец, гісторык, аўтар вялікай колькасьці выданьняў па гісторыі Беларусі Генадзь Сагановіч.

Згуртаваньне "Бацькаўшчына" будзе ўдзячна ўсім, хто далучыцца да нас і падтрымае гэты патрэбны Беларусі праект.

***МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***

## 60-годзьдзю трэцяй хвалі эміграцыі прысьвячаецца

Міжнароднае грамадзкае аб'еднаньне "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" абвяшчае конкурс сярод студэнтаў і маладых навукоўцаў на лепшы энцыкляпэдычны артыкул, прысьвечаны гісторыі, сучаснасьці, культуры, філязофіі дыяспары, асяродкам, асобным дзеячам, цэрквам, выданьням, падзеям, тэрмінам, актуаліям ды інш. Працы павінны быць арыгінальным дасьледваньнем аўтараў і насіць энцыкляпэдычны характар, грунтоўна і ўсебакова насьвятляючы тэму. Лепшыя працы ўвойдуць у энцыклапэдыю беларускай дыяспары (напачатку ў электронную вэрсыю на сайце МГА "ЗБВ "Бацькаўшчына"), а пераможцы атрымаюць падарункі. Адбор працаў будзе ажыцьцяўляцца кампэтэнтнай экспэртнай камісіяй.

Праца павінна ўтрымліваць каардынаты (пры наяўнасьці - навуковую ступень) аўтара, бібліяграфію да артыкула.

Працы прыймаюцца да 20 верасьня па адрасу: ***МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", вул. Рэвалюцыйная 15, 220030 г. Менск, БЕЛАРУСЬ***

***Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.***
***Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.***

# Дапамога беларускай адукацыі

Для беларускамоўнай адукацыі пільна патрэбная матар'яльная дапамога, каб даць адпор узмоцненаму наступу з боку антыбеларускага рэжыму.

Шмат ахвярадаўцаў працягваюць даваць дапамогу штомесячна да канца школьнага году.

**Нью Ёрк**. Адказная Тацьцяна Красоўская, тэл. (718) 859-7201.

Натальля Балыш, Аляксандра Лістоўская, Віктар Лістоўскі, Сяргей Пятровіч, Вольга Картавая, Юры Лапіцкі, Тацьцяна Чартова, Юрка Касьцюкевіч.

З **Каліфорніі** да акцыі далучыліся Яраслаў і Кацярына Вініцкія і Люсыль Мішэль.

Большыя ахвяраваньні прыйшлі ад Юркі й Лёрэйн Кіпеляў зь **Нью Джэрзі** й з штату **Орэган** ад Анатоля і Веры Пранцэвічаў.

**Грамадзтва беларускай дыяспары запрашаецца далучыцца да гэтай акцыі!**

Усе ахвяраваньні на гэтую мэту звольненыя ад падаткаў. Чэкі можна выпісваць на ўстанову, якая каардынуе акцыю дапамогі:

**O.R. Cultural & Educational Foundation**

і слаць на адрас: **172 Mill Spring Rd, Manhasset, N.Y, 11030**

**Старонка газэты "Беларус" у сусьветным сеціве зьмяніла ранейшы выгляд. Спадзяемся, што зьмены адбыліся да лепшага. Зазірніце туды, калі ласка, каб выказаць вэбмайстру вашую апінію адносна новага дызайну. Усе слушныя меркаваньні будуць улічаны. Дасылайце свае прапановы, абвесткі, артыкулы. Нагадваем адрас: *www.bielarus.org***

## На Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

**на выданьне ангельска-беларускага слоўніка ахвяравалі:**

| АЎСТРАЛІЯ: | | ЗША: | |
|---|---|---|---|
| Міхась Лужынскі аўстр. дал. | 1000 | Язэп і Ляля Арцюх у памяць В. Кажана | $150.00 |
| Віктар Ліпскі | 300 | АНГЕЛЬШЧЫНА: | |
| Язэп Шкода | 150 | Алена і Мікалай Сенька | $690.00 |
| М.Антух | 50 | | |

# Беларусь за месяц

## Аб патэнцыяле беларускай апазыцыі

Незалежная лабараторыя "Новак" - правяла дасьледаваньне грамадзкае думкі по розных аспэктах унутрыпалітычнага і эканамічнага жыцьця. Была ўдзеленая ўвага і рэальнаму патэнцыялу беларускае апазыцыі.

Апытаньне, у якім у канцы лютага - пачатку сакавіка ўзялі ўдзел 1100 рэспандэнтаў, ставіла на мэце выявіць рэальны патэнцыял апазыцыйных беларускіх палітыкаў, якія могуць узяць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году.

Высьветлілася, што лідэр - старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, на якога акурат нядаўна пракуратура Рэспублікі Беларусь завяла крымінальную справу за паклёп на прэзыдэнта. Яму цяпер пагражае пазбаўленьнем волі на пяць гадоў.

Другое месца трымае лідэр падкантрольнай Лукашэнку Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, трэцяе - старшыня партыі БНФ - Вінцук Вячорка.

На пытаньне *"Калі-б выбары прэзыдэнта адбыліся ў найбліжэйшую нядзелю, то за якога кандыдата вы-б прагаласавалі"*, 8,3% рэспандэнтаў "хутчэй за ўсё прагаласавалі-б за Лябедзьку", а 19,4% "хутчэй не галасавалі за Лябедзьку", адпаведна за Гайдукевіча - 6,2% і 34,9%, за В. Вячорку - 5% і 22,7%.

Адказы на больш канкрэтнае пытаньне: *"Калі-б выбары прэзыдэнта адбыліся ў найбліжэйшую нядзелю, то з каго з прыведзенага ліста вы-б прагаласавалі"* вызначылі топ-10 беларускага палітычнага Алімпу. А. Лябедзька - атрымаў бы 5% галасоў выбаршчыкаў, С. Гайдукевіч - 3,9%, В. Вячорка - 2,4%, дэпутат парлямэнцкае групы "Рэспубліка" генэрал Валеры Фралоў - 2,1%, былы міністар замежных справаў Пятро Краўчанка - 1,9%, былы міністар зьнешнеэканамічных сувязяў Міхаіл Марыніч - 1,7%, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) - 1,6%. Замыкаюць дзесятку беларускіх палітыкаў былы рэктар БДУ Аляксандар Казулін - 1,1%, былы спікер Савета Рэспублікі Аляксандар Вайтовіч - 0,5% і прэзыдэнт Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандар Ярашук, які набраў 0,4%. 38,6% рэспандэнтаў не прагаласавалі ні за каго, а 35,6% не далі адказу.

Адсоткі па ступені даверу крыху вышэйшыя. С. Гайдукевічу давяраюць 15,4% апытаных, не давяраюць - 22,6%, ня ведаюць "наагул хто такі" - 43,1%, А. Лябедзьку давяраюць 14,9%, не давяраюць - 11,9%, 57% - ня ведаюць такога палітыка наагул. 12,1% давяраюць В. Вячорку, 12,9% не давяраюць, а 61,1% ня ведаюць такога палітыка. М. Статкевічу давяраюць 11,3%, 11,5% не давяраюць, 59% адказалі, што ня ведаюць такога.

Экспэрты падкрэсьліваюць наступную тэндэнцыю: папулярнасьць Лукашэнкі рэзка зьніжаецца, але і апазыцыя не расьце. Выбаршчыкі, расчараваныя афіцыйнай палітыкай, усё-ж у апазыцыю не пераходзяць.

Вось такія рэаліі беларускага палітычнага жыцьця.

## БРСМ уступае ў "Зубр"

Каля сотні навучэнцаў Баранавіцкага каледжа лёгкай прамысловасьці, якія былі сябрамі падкантрольнага дзяржаве Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі ("лукамол") вырашылі далучыцца да моладзевага руху "Зубр". Далучылася каля 60 чалавек. У БРСМ напачатку казалі, што гэта няпраўда і ніякага афіцыйнага пераходу не было, потым прызналі, пачалі шукаць ворагаў. Тым часам у Баранавічах пачалі затрымліваць і даваць суткі сябрам "Зубра" - за ўдзел у пікетах, распаўсюд улётак, дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.

## Злыбеды "Народнай Волі"

Судовыя зыскі перасьледуюць гэтую папулярную газэту. Ня так даўно адгрымеў суд аб абразе гонару і годнасьці кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова, па выніках якога газэту разарылі на $23 300, а цяпер скончыўся іншы працэс. Пазоў падаў прадпрымальнік Сяргей Атрошчанка. "н палічыў, што у адным з нумароў газэты былі закранутыя ягоны гонар і годнасьць. Суд прызнаў довады Атрошчанкі слушнымі й абавязаў "Народную Волю" заплаціць прадпрымальніку 16 млн. рублёў (каля $7,7 тыс.) у якасьці кампэнсацыі за абразу. Яшчэ пару такіх судоў і газэту можна будзе закрываць - ня будзе грошай на яе выданьне.

Дарэчы, той самы Ягор Рыбакоў быў арыштаваны 13 лютага і абвінавачаны ў фінансавых і службовых злоўжываньнях. Яму пагражае ад 7 да 15 гадоў пазбаўленьня волі. Рыбакоў цяпер сядзіць у менскай "амэрыканцы". Дзесьці ў суседняй камэры знаходзіцца былая кіраўнічка справамі прэзыдэнта, некалі ўсемагутная Галіна Жураўкова. Яе таксама абвінавачваюць у злоўжываньнях і крадзяжах у асабліва буйных памерах.

## Перавыданьне "Новага Запавету"

Біблейскае таварыства выдала накладам тры тысячы асобнікаў "Новы Запавет" ў перакладзе нябожчыка айца Уладзіслава Чарняўскага. Нагадаем, што першае выданьне пабачыла сьвет у 1999 годзе. Новае выданьне дапрацаванае і дапоўненае дадаткамі - слоўнікам, хранале́гіяй жыцьця Езуса Хрыста, мапамі Палестыны й Міжземнамор'я.

## Прэмія Багушэвіча

25 сакавіка Беларускі ПЭН-цэнтар уручыў традыцыйную прэмію імя Францішка Багушэвіча. Гэтая ўзнагарода прызначаецца за гістарычныя творы. Сёлета яе атрымаў Захар Шыбека з сваім "Нарысам гісторыі Беларусі 1795-2002".

Захар Шыбека - доктар гістарычных навук, прафэсар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту. Аўтар кніг "Мінск: старонкі жыцьця дарэвалюцыйнага гораду" (1994), "Гарады Беларусі: 60-я гады XIX ст. - пачатак XX ст." (1997), "Нарыс гісторыі Беларусі. 1795-2002" (2003).

Захар Шыбека: "Калі скласьці нашыя гістарычныя перамогі й паразы, то апошніх будзе больш. Беларусы - не зусім добрыя воіны й зусім благія кіраўнікі. Але беларусы заўсёды былі таленавітымі творцамі: пісьменьнікамі, мастакамі, тэатральнымі дзеячамі, навукоўцамі. Мы ўвесь час сілкавалі сваімі інтэлектуальнымі скарбамі іншыя народы й краіны. Акурат інтэлектуальныя якасьці нашага народу спрычыніліся да выжывальнасьці беларусаў. Чужаземцы зьдзіўляюцца: столькі войнаў прайшло праз нас, мы перажылі колькіякаковую адсутнасьць сваёй дзяржавы, а вось-жа засталіся на мапе сьвету. Нацыю можа захаваць ня толькі зброя, моцная дзяржава, але і магутны інтэлект. Калі ёсьць інтэлектуальны патэнцыял, народу наканаваная несьмяротнасьць".

*Паводле "Нашай Нівы"*

## СВАБОДА вяртаецца

Аднаўляе выхад некалі вельмі папулярная газэта "Свабода". Рэдактарам аднаўленага выданьня стаў ведамы беларускі публіцыст Сяргей Дубавец. Газэта пакуль будзе выходзіць раз на месяц на 24 старонках невялікім накладам. Паводле галоўнага рэдактара, мэта гэтага выданьня - падымаць маральны дух беларускай інтэлігенцыі.

Сяргей Дубавец распавядае: "Чатырнаццаць гадоў таму газэта пачала выходзіць. Я яе рэдагаваў год, а пасьля перадаў Германчуку, які тады быў у Вярхоўным Савеце, каб яе раскруціць. І зрабіць такім сур'ёзным агульнанацыянальным мэдыйным праектам. Што ён і зрабіў. А пасьля ўмяшаліся ўсялякія аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, і яна зьнікла. Але, калі я яе пачынаў, у мяне не было плянаў, каб яна куды-небудзь зьнікла.

І таму сёньня я аднаўіў гэтае выданьне, тым больш, што нічога падобнага ў Беларусі не выходзіць. "Нашай Ніве" адной вельмі цяжка без такога спарынг-партнэра, ці фону такога чыста духоўнага, інтэлектуальнага. Я аднаўіў неафіцыйнае выданьне, без рэгістрацыі, бо яе немагчыма зарэгістраваць. У пэўным сэнсе выданьне элітарнае, не для шырокай публікі. Нашая задача падымаць дух, і каб насы ня вешалі".

Першая газэта пад назваю "Свабода" выйшла ў Беларусі ў 1902 годзе дзякуючы намаганьням Вацлава Іваноўскага. Але перад пагрозаю канфіскацыі выданьня расейскай паліцыяй рэдакцыя зьнішчыла ўвесь наклад. Выданьне аднавілі ў 1990 годзе, і яно праіснавала сем гадоў, калі суд зьліквідаваў газэту пасьля двух папярэджаньняў за парушэньне "Закону аб СМІ", якія вынес выданьню Дзяржкамітэт па друку.

*Паводле Радыё Свабода*

# Каардынатар

## Ганс Вік каардынаваў сваю дзейнасьць у Беларусі з КГБ

На пачатку году ў расейскамоўнай прагэбоўскай газэце "Белорусская газета" (іронія назвы), якая выдаецца ў Менску, было зьмешчанае інтэрв'ю сумна ведамага Ганса-Георга Віка. Там ён кажа: "Я - чалавек нумар адзін у гэтым пытаньні дачыненьняў зь Беларусяй. Я - тая абсалютна свабодная асоба, якая ведае, што адбываецца ў Беларусі, ведае, што павінна адбывацца. (Ого!) Менавіта мяне пытаюць, калі мова ідзе пра Беларусь і пра адносіны да яе", - хваліцца Вік. ("Белорусская газета", 2004, 12 студзеня).

Як кажуць, ад сьціпласьці не памрэ, але рэдка прыходзіцца такое чытаць.

З усіх функцыянэраў замежных спэцслужбаў ніхто не зрабіў столькі шкоды для Беларусі і для беларускай дэмакратыі, як Ганс Вік. Пра гэта мне прыходзілася казаць і пісаць пастаянна, з 1998 году, як толькі Вік разам з КГБ пачаў стварыць у Беларусі так званую "аб'еднаную апазыцыю" (агентуру ўплыву) і рыхтаваць потым так званы "перамоўны працэс" гэтай агентуры ("апазыцыі") з рэжымам Лукашэнкі. Трэба было адцягнуць увагу беларускай і міжнароднай грамадзкасьці ад галоўнага - ад небясьпекі інкарпарацыі Беларусі ў Расею. І другое - (чаго хацелі Масква і Бэрлін) нэўтралізаваць нацыянальна-дэмакратычныя сілы Беларусі, тыя, што вярнулі незалежнасьць і адчынілі дарогу да дэмакратыі й самастойнага разьвіцьця краіны, менавіта - Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", пазбавіць яго кіруючай ролі ў апазыцыйным руху. Бо пакуль у апазыцыі да рэжыму будзе дамінаваць Фронт, датуль будзе пэрспэктыва нацыянальна моцнай і эканамічна магутнай дэмакратычнай дзяржавы Беларусі. А гэта ня трэба ні Маскве, ні Бэрліну, ні Сорасу.

У 2000 годзе на міжнароднай канфэрэнцыі ў Беластоку Ганс Вік публічна заявіў, што бачыць задачу Менскай Місіі АБСЭ пад ягоным кіраўніцтвам у тым, каб спрыяць уключэньню Беларусі ў Расею, бо ў Расеі, маўляў, "болей дэмакратыі". Пасьля гэтай заявы арганізацыі Беларускага Вызвольнага Руху (Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і ягоная Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя - БНФ) аб'явілі Г. Віка пэрсонай нон-грата і запатрабавалі ад краінаў АБСЭ і ад Нямеччыны адклікаьня яго зь Беларусі.

У апошнія гады (пасьля стамбульскага зьезду АБСЭ) нямецкая палітыка ў АБСЭ, на якую ўплываў Ганс Вік (нагадаю, былы кіраўнік зьнешняй разьведкі Нямеччыны), была накіраваная на стварэньне ўражаньня, што рэжым Лукашэнкі "дэмакратызуецца". Хацелі невялікіх, чыста фармальных, саступак ад Лукашэнкі ўзамен за прызнаньне ягонага рэжыму. Пачалі закулісныя размовы й далі магчымасьць рэжыму выйграць час, скарыстаць адміністрацыйны рэсурс і перамагчы на недэмакратычных выбарах прэзыдэнта. Пасьля гэтага Лукашэнка беспардонна вытурыў Віка. Усё гэта выглядае нават камічна (калі-б не было так сумна).

Цяпер Вік пачаў прызнавацца, раскрываць таямніцы Палішынэля. З публікацыі "Белорусской газеты" вынікае, што на ўсю "вікаўскую апазыцыю" і на ўсе гэтыя так званыя "перамовы" з рэжымам Вік выкарыстаў каля паўтара мільёна даляраў, выдзеленых АБСЭ, а Эўразьвяз санкцыянаваў (адчыніў доступ да фонду). Гэтак "дапамагалі" "дэмакратыі", а дакладней - афёры ў Беларусі. (Вось дык Вік!)

"І ўсе эўрапейскія ўрады былі ў курсе, - сцьвярджае Вік у інтэрв'ю, - не было ніякіх таямніцаў! Адзінаю таямніцаю было тое, што паперы падпісваў таксама шэф беларускага КГБ, іншых таямніцаў не было." ("Белорусская газета", 2004, 12 студзеня).

Вось гэта штука! (Ад нямецкага "шцюк" - п'еса, мастацкі твор.) Вік сам прызнаўся, што ўсё гэтае стварэньне вікаўскай "апазыцыі" зь лябедзяк, калякіных, фраловых, статкевічаў ды гайдукевічаў, уся гэтая фронда ды грантаўская "публіка" стваралася ім з санкцыі КГБ, усе гэтыя "хартыі", маршыкі "за лучшую жызьнь", усе гэтыя ганчарыкі-каштуніцы ды іхныя апэрэтачныя "выбары" - усё гэта, увесь гэты плян завізаваў Віку лукашэнкаўскі Камітэт Дзяржбясьпекі, а эўрапейскія ўрады, ня ведаючы "таямніцы" нямецкага разьведчыка, фінансавалі спэцапэрацыю КГБ у Беларусі.

Ну, што-ж, як кажуць, прыехалі, спадары. Але Вік ня ёсьць шчырым да канца, калі кажа: "Іншых таямніцаў не было." Была, аднак, галоўная таямніца, пра якую Вік яшчэ не прызнаўся. Заключаецца яна ў тым, што ўсе грошыкі й ўсё, што ім рабілася, было накіраванае аднагасна на зьнішчэньне Беларускага Народнага Фронту. У гэтым, маркую, ён мае яшчэ шанс прызнацца ў судзе пасьля таго, як будзе ліквідаваны рэжым Лукашэнкі зь ягонай падстаўной вікаўскай "апазыцыяй", і ў Беларусі ўсталюецца дэмакратычная беларуская ўлада.

Магчымасьцю выкрыцьця Віка тлумачыцца ягонае "дзіўнае" прызнаньне "Белорусской газете". Вік супрацоўнічаў з КГБ, пэўна-ж, не на свой страх і рызыку, а зь ведама каго трэба. Усё было разьлічана на тое, што "перамоўцаў ня судзяць". Але антыбеларуская дзейнасьць Віка была голасна раскрыта Беларускім Вызвольным Рухам, а Лукашэнка, ў сваю чаргу, скарыстаўшы дапамогу "вялікага дыплямата", выставіў яго каленам.

Таму Вік "прызнаўся", каб ня ўпаў цэнь на "каго трэба" і каб потым (калі яго абвінавацяць) ня трэба было-б апраўдвацца. Маўляў, дык я-ж пра гэта сам сказаў.

Ведаем мы гэтых "сяброў дэмакратыі".

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Беларуская замежная прэса і радыё

Сьнежань 2003 № 6/7

## БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Газэта Згуртаваньня беларусаў Канады | Publication of the Belarusian Canadian Alliance

December 2003 № 6/7

Газэта "Беларускае слова" пачала выдавацца ў Таронце ад студзеня 2002 году. Да гэтага часу Згуртаваньнем Беларусаў Канады раз у квартал выпускаўся інфармацыйны бюлетэнь "Інфа-ЗБК", дзе зьмяшчаліся пераважна кароткія паведамленьні аб імпрэзах, аб'явы й віншаваньні.

Першы нумар "Беларускага слова" (некалькі сотняў асобнікаў) быў надрукаваны тым самым спосабам, што і "Інфа-ЗБК" - размножаны ўручную на старэнькім фотакапіявальным апараце, што стаіць у залі Беларускага рэлігійна-грамадзкага цэнтру. Але ўжо ад другога нумару колькасьць старонак у газэце павялічылася настолькі, што паўстала пільная неабходнасьць у паслугах друкарні. Маладая мастачка Яўгенія Шаўчэнка (у тыя часы яшчэ школьніца, а цяпер студэнтка архітэктурнага факультэту) распрацавала адметны дызайн "Беларускага слова", дзякуючы якому выданьне адразу займела сваё непаўторнае аблічча. Пачынаючы з другога нумару газэта выходзіць накладам 2100 асобнікаў. Зь іх сотні чатыры рассылаюцца - усім сябрам Згуртаваньня Беларусаў Канады, у беларускія арганізацыі Амэрыкі, Англіі, Аўстраліі, Гішпаніі, Летувы, Нямеччыны, Польшчы, Швэцыі і некаторых іншых краінаў, а таксама ў асобныя бібліятэкі, рэдакцыі й грамадзкія цэнтры ў самой Беларусі. Рэшта асобнікаў раздаецца наведнікам Беларускага цэнтру ў Таронце і раскладаецца па расейскіх, украінскіх і польскіх крамах. Нумары досыць хутка разыходзяцца.

Уся рэдакцыйная праца робіцца на грамадзкіх пачатках. І газэта наўрад ці змагла-б існаваць, каб да яе выпуску не далучыліся многія сябры ЗБК, якія пішуць артыкулы, дасылаюць фатаздымкі, прыносяць архіўныя матар'ялы. Першымі адгукаюцца на прапанову напісаць артыкул для газэты славутыя ветэраны ЗБК, аўтары з шматгадовым стажам удзелу ў пэрыядычным друку Кастусь Акула і Раіса Жук-Грышкевіч - бязь іхных матар'ялаў не абыходзіўся, бадай, ніводны выпуск "Беларускага слова". Рэдакцыя вельмі ўдзячная таксама старшыні Рады БНР Івонцы Сурвілле, якая, нягледзячы на вялікую занятасьць, заўсёды знаходзіць час на артыкул для "Беларускага слова".

Газэта спрычынілася да нараджэньня новых аўтараў - у Канадзе пачала пісаць спачатку артыкулы, а потым і мастацкую прозу Ірына Варабей, якая цяпер уваходзіць у склад рэдакцыі "Беларускага слова" і якой належаць два-тры матар'ялы кожнага нумару. Чытачамі заўсёды адзначаюцца артыкулы, напісаныя старшынёй таронцкага аддзелу ЗБК Надзеяй Дробінай. Бездакорны мастацкі густ, дасьціпнасьць і адметны літаратурны стыль вылучаюць усе творы Надзеі - ад гумарэсак да лірычных замалёвак. Ахвотна пішуць нататкі ў газэту Руслан Качаткоў, Вольга Манькоўская, Станіслаў Паўловіч, Аліна Ржэўская, Піліп Тананка, Марыя Цьвяткова, Ірына Шарамет, Вольга Яноўская. Старшыня ЗБК Пятро Мурзёнак, падаючы добры прыклад усім сябрам Згуртаваньня, ня толькі своечасова дасылае замоўленыя яму рэдакцыяй артыкулы, але і заахвочвае да супрацоўніцтва з газэтай беларусаў Атавы.

Нягледзячы на невялікую колькасьць выпушчаных нумароў (заяўленая пэрыядычнасьць выпуску газэты раз у квартал не заўсёды вытрымліваецца з прычыны фінансавых цяжкасьцяў), у "Беларускім слове" ўжо акрэсьліліся сталыя рубрыкі, пад якімі матар'ялы друкуюцца з нумару ў нумар. Працягваючы традыцыі свайго папярэдніка "Інфа-ЗБК", пад рубрыкаю "Чарада падзей" газэта зьмяшчае паведамленьні й фотарэпартажы аб імпрэзах, якія адбыліся ў Згуртаваньні Беларусаў Канады. У кожным нумары друкуецца таксама чарговае "Рэдакцыйнае апытаньне": калектыўнае інтэрвію на актуальную тэму. Разважаньні людзей розных нацыянальнасьцяў аб непростым лёсе перасяленцаў, аб досьведзе жыцьця ў чужой краіне публікуюцца пад рубрыкай "Эмігранцкая песьня". Вось ужо другі нумар запар у газэце прысутнічае рубрыка "Фарбы сьвету" - падборка артыкулаў пра якую-небудзь краіну, напісаных рознымі людзьмі адмыслова для "Беларускага слова". Рубрыка гэтая адразу заваявала папулярнасьць сярод чытачоў і будзе абавязкова працягнутая. Будуць працягвацца таксама сэрыя артыкулаў пра гісторыю стварэньня ЗБК, падборкі навінаў зь Беларусі, перадрукі найцікавейшых матар'ялаў з паваенных эміграцкіх беларускіх газэтаў і сучасных іншамоўных выданьняў, урокі беларускай мовы.

Зь першага нумару ў"Беларускім слове" асобнае мейсца займае літаратурна-мастацкі дадатак - альманах "Шкварка". На яго старонках друкуюцца літаратурныя творы як сталых, так і зусім маладых аўтараў (пераважная большасьць якіх жыве ў Канадзе), рэпрадукцыі твораў мастацтва, літаратурная крытыка, успаміны, перапіска, "Анталёгія эміграцкай літаратуры", матар'ялы да юбілеяў беларускіх клясыкаў. З нумару ў нумар друкуецца з працягам вялікая этнаграфічная праца "Мотальскае вясельле" - гэта ўрывак зь вялікай і пакуль не надрукаванай кнігі "Мястэчка Моталь", якую пад псэўданімам "Сырытка Маталянін" напісаў Першаярарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Ўладыка Мікалай. Нажаль, аўтар пасьпеў пабачыць на старонках газэты толькі самы першы разьдзел сваёй працы...

Аўдыторыя "Беларускага слова" павялічваецца з кожным нумарам, пра што красамоўна сьведчаць лісты й званкі чытачоў. Рэдакцыя пад кіраўніцтвам галоўнага рэдактара Віялеты Кавалёвай мае шчырае жаданьне працягваць працу і рабіць наступныя выпускі газэты яшчэ цікавейшымі. Але зрабіць гэтага не атрымаецца без фінансавай падтрымкі з боку чытачоў. Вялікая падзяка належыцца ўсім беларускім эмігрантам-вэтэранам, якія рэгулярна дасылаюць на выдавецкі фонд газэты свае ахвяраваньні. Менавіта дзякуючы ім газэта дагэтуль выходзіць: друк і рассылка кожнага нумару абыходзіцца больш чым у 900 даляраў, і для такой маленькай арганізацыі, як ЗБК, гэтая сума папросту непад'ёмная. Нажаль, да практыкі фінансавай дапамогі газэце яшчэ не прызвычаіліся новыя перасяленцы зь Беларусі. Магчыма, яны папросту не ўсьведамляюць, што нават невялікія ахвяраваньні ў 10-20 даляраў вельмі шмат дапамаглі-б рэдакцыі. Як кажуць тут, "Your small change can change a lot!".

Карыстаючыся нагодай, рэдакцыя "Беларускага слова" заклікае да творчага супрацоўніцтва новых аўтараў і запрашае ўсіх, хто хацеў-бы атрымліваць газэту, даслаць пра гэта ліст на адрас: ***"Bielaruskaje slova"*, 103 Stephen Drive, Unit 1, Toronto, ON, M8Y 3M8**. Можна таксама дасылаць электронныя лісты на адрас **bielslova@hotmail.com**, **biel_slova@hotmail.com**. На гэтыя-ж адрасы рэдакцыя просіць дасылаць камэнтары наконт мінулых выпускаў газэты і будзе ўдзячная за любыя заўвагі.

*Адрыяна АСТАШКІНА*

# 1918 год - Вясна Народаў

Традыцыйна ў гісторыяграфіі тэрмін "Вясна Народаў" ужываецца датычна эўрапейскіх падзеяў 1848-49 гадоў, рэвалюцыйнага ўздыму народаў, сапраўды апагею XIX стагодзьдзя. Але ў прыродзе за вясною настае лета, цараваньне сонца. А Вясна Народаў 1848-49 г.г. скончылася катастрофаю і змрочнай рэакцыяй, паразаю нацыянальна-вызваленчых рэвалюцыяў. Засталіся стаяць на гліняных нагах фэадальныя імпэрыі. І хаця сучасьнікі называлі менавіта Асманскую імпэрыю "хворым чалавекам Эўропы", такога дыягназу заслугоўваў кожны з дынастычных рэліктаў - Расейская, Аўстра-Вугорская, Нямецкая (хаця большасьць яе калёніяў знаходзілася па-за Эўропаю) імпэрыі.

Вялікая вайна (так сучасьнікі называлі Першую сусьветную) 1914-18 г.г. выклікала на нашым кантыненце палітычны катаклізм, маштабы й сілу якога можна суаднесьць хіба з эпохаю напалеонаўскіх войнаў. У 1918 годзе і на працягу некалькіх наступных гадоў рассыпаліся і сышлі ў нябыт імпэрскія валадараньні, якія ўтвараліся і існавалі стагодзьдзямі. Мапа Эўропы кардынальна зьмянілася, паўсталі новыя нацыянальныя і шматнацыянальныя дзяржавы, перамогаю скончылася барацьба многіх пакаленьняў за свабоду і незалежнасьць. Ня будзе перабольшваньнем казаць пра эпоху Вясны Народаў. Настолькі быў спрэсаваны, поўны падзеяў гістарычны час гэтых трох гадоў.

Сімбалічна прагучалі словы лідэра Ірляндзкай рэвалюцыі Майкла Колінза. Калі ў 1921 г. ён зьявіўся са сваімі генэраламі ў Дублінскім замку дзеля ўзьняцьця ірляндзкага сьцягу, што сімбалізавала канец брытанскай акупацыі, брытанцы заявілі, што, маўляў, не настаў яшчэ вызначаны пратаколам час распачынаць цырымонію. Колінз зірнуў на гадзіньнік і сказаў з усьмешкаю: "Мы чакалі гэты момант васемсот гадоў, пачакаем- жа восем хвілін..." Менавіта перамогаю ірляндзкага народу і завершылася Вясна Народаў.

У 1918-21 гг. у Эўропе нарадзілася больш незалежных дзяржаваў, чым за ўсё папярэдняе стагодзьдзе. У першай палове XIX ст. заваявала незалежнасьць Грэцыя, і скончылася перамогаю Бэльгійская рэвалюцыя. У другой палове XIX ст. вызваліліся ад асманскага іга Баўгарыя, Румынія і Сэрбія, узьнікла Італія, дзе пачалося стварэньне адзінай нацыі ў сучасным сэнсе слова. Пасьля паразы 1848-49 г.г. працэс нацыянальнага адраджэньня разьвіваўся прыкладна ў аднолькавых формах у розных этнасаў: асьветніцтва, адраджэньне літаратурнай мовы, культурнай і гістарычнай традыцыі. Да 1918 году нават не фармуляваліся праграмы нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці. Чэхі, харваты, угорцы, фіны й г.д. бачылі сваю будучыню ў рамках аўтаноміі ў межах існуючых імпэрыяў. Выключэньне складалі хіба толькі палякі ды ірляндцы, а таксама нешматлікія нацыянальныя групоўкі, якія ўпарта змагаліся за поўную дзяржаўную незалежнасьць. Афіцыйная імпэрская прапаганда абзывала іх "нацыянал-радыкаламі, бандытамі, тэрарыстамі, экстрэмістамі" (знаёмая нам і сёньня лексіка, ці не праўда?). Першым сыгналам аб набліжэньні новай эпохі было нацыянальна-дзяржаўнае вызваленьне Нарвэгіі ў 1905 годзе. На рэфэрэндуме па пытаньні выйсьця з уніі са Швэцыяй з паўтарамілённага насельніцтва Нарвэгіі толькі 183 асобы прагаласавалі супраць незалежнасьці (!).

Мой любімы эпізод Вясны Народаў пераказаны Гансам Крысьціянам Андэрсэнам. Пасьля паразы кайзэраўскай Нямеччыны ў сусьветнай вайне датчане вырашылі вярнуць ва ўлоньне нацыянальнай дзяржавы некалькі паўднёвых паветаў, захопленых у XIX ст. прусакамі. Дацкае войска маршыравала сярод натоўпаў, ахопленых радасьцю вызваленьня. Дзеці падносілі кветкі каралю, што ехаў на чале аддзелаў. Людзі танцавалі на вуліцах (стрыманыя, флегматычныя, ураўнаважаныя датчане!). У паведамленьнях сьведкаў і ўдзельнікаў падзеяў паўстаюць надзіва падобныя карціны моманту абвяшчэньня нацыянальнай дзяржавы ў розных гарадох, у розных кутках Эўропы: на плошчах зьбіраюцца шматтысячныя натоўпы, мора нацыянальных сьцягоў; людзі, знаёмыя і незнаёмыя, абдымаюцца і віншуюць адзін аднаго, сьпяваюць нацыянальныя песьні; у храмах ідуць Багаслужбы ў падзяку Ўсявышняму за дараваную волю. Чаму народы розных традыцыяў, розных паводзінавых стэрэатыпаў так аднолькава рэагавалі на маніфэст аб дзяржаўнай незалежнасьці? А таму, што Воля і Незалежнасьць. Таму што нармальны народ менавіта так рэагуе на вызваленьне ад імпэрыі.

Аднак, паліптых эўрапейскага абнаўленьня намаляваны далёка ня толькі яркімі, сьвяточнымі фарбамі. Вясна Народаў - гэта вялікая драма. Лёс Беларускай Народнай Рэспублікі зьяўляецца адным з актаў гэтай хвалюючай драмы. Усё зьмяшалася ў эўрапейскім доме. Румыны прайшлі фарсаваным маршам і захапілі Будапэшт. Чэхаславацкія легіянэры біліся з вугорскімі жаўнерамі на вуліцах славацкіх гарадоў. Закарпацкія ўкраінцы заявілі свае прэтэнзіі на незалежнасьць, і іх душылі вугорскія карнікі. Легіянэры Пілсудскага раззбройвалі нямецкіх жаўнераў, а немцы высаджвалі дэсанты ў Фінляндыі й Эстоніі, каб дапамагчы нацыяналістам бараніцца супраць камуністаў і расейскай агрэсіі й г. д. Вызначаліся новыя межы, палітычныя хаўрусы й арыентацыі, маладым дзяржавам трэба было абара-

*Працяг на бачыне 7*




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org

№3 (458)


## Лютаўскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся 14 лютага. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка даў кароткі агляд падзеяў у Беларусі за мінулы месяц. Сярод закранутых тэмаў былі працяг газавага канфлікту з Расеяй, наведаньне ЗША і Вашынгтону прадстаўнікамі кааліцыі беларускіх апазыцыйных партыяў "Пяцёрка Плюс", страйкі прадпрымальнікаў на рэчавых рынках у Беларусі, арышт былой кіраўніцы справамі Лукашэнкі ды іншае.

Затым перад прысутнымі выступіў госьць аддзелу - ведамы беларускі мастак з Польшчы сп. Лявон Тарасэвіч. Сп. Тарасэвіч, прызнаны ў Эўропе мастак і беларускі грамадзкі дзеяч, знаходзіцца ў Нью Ерку з нагоды адкрыцьця выставы ягоных твораў у галярэі "Гары Татынцян" на Мангэтане, якая будзе працаваць да 11 сакавіка. Гэта ўжо чацьвертая выстава мастака ў нашым горадзе, а першая адбылася 15 гадоў таму.

Сп. Тарасэвіч расказаў прысутным пра сябе. Нарадзіўся ён у Гарадку на Беласточчыне (паміж Ваўкавыскам і Беластокам), зь якім зьвязаны старажытны беларускі род Хадкевічаў. Мясцовасьць наагул шмат дала беларускіх дзеячоў, тут паўстаў Супрасьльскі манастыр, у Заблудаве была славутая друкарня. Сп. Тарасэвіч вучыўся ў мастацкім ліцэі ў Супраслі. Потым была служба ў войску і вучоба ў Варшаўскай Акадэміі Мастацтваў. Творы мастака экспанаваліся ў галярэях па ўсім сьвеце, і некаторыя зь іх афіцыйна прэзэнтаваліся розным асобам як дар Польскай дзяржавы. Мастацкія крытыкі прызнаюць Тарасэвіча адным з найбольш значных мастакоў у сучаснай Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Цяпер ён выкладае мастацтва ў сваёй Alma mater - Варшаўскай Акадэміі Мастацтваў. З прызнаньнем прыйшоў і дабрабыт - сп. Тарасэвіч валодае запраўкамі, гатэлям, за свае сродкі заасфальтаваў дарогу ў Валілах, дзе цяпер жыве. Сп. Тарасэвіч паходзіць зь мясьцінаў, дзе людзі спрадвеку былі й да сёньня застаюцца беларускамоўнымі, незалежна ад веравызнаньня або нацыянальнасьці, да якой сябе залучалі. Па словах сп. Тарасэвіча "Калісьці нават зацятыя пілсудчыкі, што называліся палякамі й за Польшчу гатовыя зубамі рваць - нават тыя гаварылі пабеларуску, бо так размаўлялі ў хаце іхныя бацькі, дзяды". Толькі калі стала пашырацца тэлебачаньне, беларуская мова стала саступаць пазыцыі "пальшчызьне". Моцным быў ціск за палянізацыю. У 1980-я гады, у часы "Салідарнасьці", беларусы Польшчы й Беласточчыны сталі больш актыўныя ў сэнсе і грамадскім, і палітычным. Сп. Тарасэвіч браў у гэтым непасрэдны ўдзел, стаў у 1984 годзе адным з заснавальнікаў БАС - Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў. Яно згуртавала нацыянальна сьведамую моладзь, якая рабіла экспэдыцыі па вёсках, запісвала песьні, абрады, мясцовую гісторыю. Пазьней Лявон Тарасэвіч браў удзел у стварэньні й дзейнасьці Беларускага Дэмакратычнага Аб'еднаньня - беларускай палітычнай партыі, а таксама ўдзельнічаў у выданьні газэты "Ніва" і часапісу "Сустрэчы", а таксама перадвыбарчага бюлетэню па-беларуску "Гарадоцкія Навіны". Тады ў Гарадку з 20 абраных радных мясцовага самакіраваньня 17 былі беларусамі. Сп. Тарасэвіч распавёў таксама пра свае гобі - ён зьяўляецца прэзыдэнтам Клюбу дэкаратыўных курэй, сам мае іх 800, яны атрымлівалі ўзнагароды. Гутарка ішла ў таварыскім, трохі гіранічным стылі, і дадатковую інфармацыю пра Лявона Тарасэвіча далі спн. Ала Орса-Романо і сп. Вячка Станкевіч. Адказваючы на пытаньні пра жыцьцё беларусаў у Польшчы сп. Тарасэвіч адзначыў, што ніколі не меў праблемаў з "сапраўднымі" палякамі, з Варшавы ці з Познані. Болей супрацьву беларускай справе рабілі й робяць "палякі ў першым пакаленьні", асымілянты, што імкнуцца ганячы ўсё сваё, беларускае, лепей (як яны лічаць) інтэгравацца ў польскае грамадзтва. Наконт магчымага захопу Польшчаю беларускіх земляў, што некалі былі т. зв. "Усходнімі крэсамі", сп. Тарасэвіч адзначыў, што пераважны настрой у польскім грамадзтве - павага да існуючых межаў, і гэты настрой безумоўна будзе мацавацца пры ўступленьні ў Эўразьвяз. Размовы пра польскую пагрозу - гэта лухта, выгадная толькі Лукашэнку і Расеі. Беларусы ў Польшчы маюць свае праблемы, але яны вырашаюць іх самыя і ня маюць падтрымкі беларускай дзяржавы, якая сёньня імі не цікавіцца.

Прысутныя зь вялікай цікавасьцю слухалі сп. Тарасэвіча і ставілі пытаньні пра жыцьцё суродзічаў у Польшчы.

Затым сп. Вячка Станкевіч распавёў навіны з жыцьця Нацыянальнага Гуманітарнага Ліцэю, у прыватнасьці, што Нямеччына заявіла аб прызнаньні дыплёмаў, якія выдадуць вучням пры заканчэньні, якія сёньня, як ведама, праводзяцца ў падпольных умовах. Гэта дасьць ліцэісітам магчымасьць працягваць асьвету ў Нямеччыне.

Пасьля адбылося знаёмства з гасьцямі сходу, прагучэлі аб'явы, сябры аддзелу мелі магчымасьць калегавацца з гасьцямі пры каве і прысмаках.

*Віталь ЗАЙКА*

---

***У нядзелю, 28 сакавіка 2004-га году, адбудзецца ўрачыстая акадэмія і сьвяткаваньне 86-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці***

***БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.***

***Сьвяткаваньне ладзіцца ў грамадзкай залі Сабору Сьв. К. Тураўскага па адрасу:***

**401 Атлянтык Авэню (пры Бонд Стрыт), Бруклін, Нью Ёрк.**

***Пачатак урачыстасьці а 2-й гадзіне папаўдні, пасьля будуць банкет і канцэрт.***

***Кошт квітка-$25, дзецям да 12 гадоў - бясплатна, ад 12 да 18 гадоў - $12, студэнтам - $20.***

***Замовы й аплату просьба накіроўваць скарбніку аддзелу сп. Валеру ДВОРНІКУ.***

***Чэкі, калі ласка, выпісвайце на:***

**BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION.**

***Запрашаем усіх беларусаў і прыяцеляў!***

## Сакавіцкі сход аддзелу БАЗА

У Фундацыі Крэчэўскага 13 сакавіка адбыўся чарговы штомесячны сход нью ёрскага аддзелу БАЗА. Старшыня аддзелу, сп. Віталь Зайка, напачатку даў кароткі агляд апошніх падзеяў у Беларусі. У прыватнасьці, ён распавёў аб працягу газавага канфлікту паміж Беларусьсю і Расеяй, аб дзейнасьці арганізацыі "Зубр" у Баранавічах, выхадзе на волю рэдактар газэты "Пагоня" Міколы Маркевіча, які быў асуджаны ў 2002 годзе за "паклёп на прэзыдэнта". Некалі ён быў госьцем на адным са сходаў нашага аддзелу. Цяпер сп. Маркевіч заснаваў газэту "Дзень", што вымушана выдавацца ў Смаленску - выйшлі ўжо 7 нумароў. На год адкладзена высяленьне Таварыства Беларускай Мовы з сядзібы ў Менску, дзякуючы пратэстам беларускай і міжнароднай грамадзкасьці. Рэжым Лукашэнкі ўвёў т. зв. "залатую акцыю" ("указ №125") - прымусовую частковую нацыяналізацыю недзяржаўных прадпрыемстваў.

Затым з інфармацыяй аб становішчы "Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі" ў Кангрэсе і Сэнаце ЗША выступіў сп. Вячка Станкевіч, адзначыўшы неабходнасьць працягу кампаніі агітацыі кангрэсмэнаў і сэнатараў для забесьпячэньня падтрымкі Акту. Затым сп. Станкевіч закрануў справу збору дапамаговых сродкаў "Белпом" і "Дар Сакавіка", які праводзіць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Прамоўца коратка расказаў пра гісторыю і дзейнасьць Рады БНР.

З інфармацыяй аб падрыхтоўцы да 26-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Сустрэча сёлета адбудзецца ў Таронта (Канада), напачатку верасьня (Labor Day weekend). Сп. Шукелойць таксама распавёў пра традыцыю Сустрэчаў і іхныя мэты.

Затым у "Розным" прагучэлі аб'явы й паведамленьні, адбылося знаёмства з гасьцямі аддзелу. Пасьля афіцыйнай часткі прысутныя працягнулі калегаваньне пры кубку кавы.

*Віталь ЗАЙКА*



***На здымку: Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць прамаўляе да ўдзельнікаў аднаго з апошніх сходаў аддзелу.***

---

**Наступны сход нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 10-га красавіка а 7-й гадзіне вечара ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:**

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

***Даезд цягніком падземкі F да 169th Street.***

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*V. Dvornik, 172 Millspring Rd., Manhasset, N.Y. 11030*

*Чэкі выпісвайце на **Belarusan American Association.***

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:
**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| К. Андрыеўскі | 30 | Э. Норык | 30 |
| А. Ермакоў | 30 | П. Пер'еў | 30 |
| Н. Казакова | 30 | С. Піражок | 30 |
| В. Картавая | 30 | І. Рагалевіч | 30 |
| М. Клакоцкі | 30 | А. Сіманюк | 30 |
| Ю. Лапіцкі | 30 | Л. Трапец | 30 |
| А. Лістоўская | 30 | К. Харлап | 30 |
| А. Макарэвіч | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

# Рэцэнзіі

**Юры Грыбоўскі, Кузьма Козак. Забытыя жаўнеры Польскага войска ў часы Другой сусьветнай вайны. 192 б. Менск. 2003 г.**

Трагічным наступствам Рыскай змовы 1921-га году паміж Польшчаю, Савецкімі Расеяй і Украінаю быў падзел Беларусі. Заходняя Беларусь апынулася пад Польшчаю. Не было ніякага плебісцыту, ці жадаюць аўтахтоны жыць у польскай дзяржаве. Ім далі польскае грамадзянства і аўтаматычна накінулі грамадзянскія абавязкі як падаткі, абавязковая служба ў войску і г. д. Дзеля гэтага ў 1939-м годзе ў Польскім войску было вельмі шмат беларусаў. Ваявалі яны зь Нямеччынай, многія трапілі ў палон. Саветы таксама ўзялі ў палон шмат беларусаў з Польскага войска. Амаль усіх іх вывезьлі ўглыб СССР.

З розных прычынаў падчас вайны й пасьля яе тысячы беларусаў апынуліся ў Польскім войску на Захадзе. І хоць ваявалі й гінулі яны за Польшчу, палякі вельмі рэдка ўспамінаюць пра беларусаў. Калі казаць аб СССР, то пра ўдзел беларусаў у вайне зь Нямеччынай на Заходніх франтах зусім не ўспаміналася, было накладзенае табу.

Толькі напачатку 1990-х гадоў мінулага стагодзьдзя, калі Беларусь стала незалежнай, на гэтую тэму пачалі друкавацца артыкулы. Летась ў Менску выйшла вельмі цікавая і карысная кніга Юрыя Грыбоўскага і Кузьмы Козака, якую яны напісалі абапіраючыся на савецкія і польскія дакумэнты, успаміны былых жаўнераў ды ўласныя архівы.

Пачынаецца кніга кароткім уступам і мае чатыры разьдзелы. Першы разьдзел называецца "Беларуска-польскія адносіны перад і ў пачатку Другой сусьветнай вайны". К. Козак піша шмат і пра Нямеччыну, і пра СССР. Успамінаецца пра лёс ваеннапалонных беларусаў у Нямеччыне і СССР. А быў ён незайздросны, ані ў адной, ані ў другой краіне. У канцы разьдзелу выказаная надзея, што ўдзел беларусаў у Польскім войску "павінен стацца тэмаю сур'ёзнага навуковага аналізу і ўстанаўленьня гістарычнай праўды".

У другім разьдзеле пад назваю "Лёс жаўнераў Арміі Андэрса, якія вярнуліся пасьля Другой сусьветнай вайны ў Беларусь" Ю. Грыбоўскі апісвае трагедыю беларусаў, якія дабраахвотна вярнуліся з Італіі й Вялікабрытаніі на Бацькаўшчыну ў 1946-48 гадох. Аказваецца, у ноч з 31 сакавіка на 1 красавіка 1951-га году былі арыштаваныя былыя жаўнеры Польскага войска на Захадзе, іхныя сем'і й вывезеныя ў Іркуцкую вобласьць. Арышты й высылкі праводзіліся і пасьля гэтай ночы. Усяго было арыштавана і вывезена 888 былых жаўнераў. Разам зь сем'ямі было вывезена 4520 асобаў.

Трапіўшы ў Іркуцкую вобласьць жаўнеры пачуваліся вельмі пакрыўджанымі, бо ніякой віны за сабою не адчувалі. Яны-ж ваявалі на баку аліянтаў СССР. Яны пісалі скаргі, прозьбы й лісты ва ўсе органы ўлады.




Са сьціснутым сэрцам чытаецца ліст Вячаслава Гузаяка да міністра нутраных справаў СССР. В. Гузаяк нарадзіўся ў 1901-м годзе ў вёсцы Шчалканы Валожынскага раёну, быў палонным у СССР, выехаў у Іран, служыў у 2-м польскім корпусе. З Італіі выехаў на Бацькаўшчыну. У лісьце ён пісаў: "Я за сабою ня маю граху. Пра мяне можна даведацца чым я займаўся. Сярод перасяленцаў ёсьць розныя і ня можна ўсіх зводзіць у адное. Я не атрымліваў ангельскага гарнітуру і шляпы, якія даюць усім дэмабілізаваным. Гэта мяне не цікавіла. Мяне цікавіла вяртаньне на радзіму. Але нават каб я і быў вінаваны, то пры чым тут сям'я. У польскім войску мяне заўсёды абзывалі камуністам, а цяпер - андэрсаўцам..." Нішто не дапамагло Гузаяку выйсьці на свабоду, ні лісты, ні тое, што падчас службы ён уступіў у Камуністычную партыю Італіі.

У наступным разьдзеле пад назваю "Успаміны й нататкі былых польскіх вайскоўцаў удзельнікаў верасьнёўскай кампаніі 1939-га году, Арміі Краёвай і Арміі Андэрса" зьмешчаныя ўспаміны, допыты органамі МГБ шаснаццаці асобаў, якія да вайны й падчас яе служылі ў польскім войску. Усе ўспаміны й допыты вельмі цікавыя і будуць добрым матар'ялам для гісторыкаў сёньня і ў будучым. Там ёсьць успаміны Хвёдара Кажаневіча і Мікалая Сенькі, сёньняшніх жыхароў Англіі. Першы пасьля дэпартацыі ў Архангельскую вобласьць у 1940-м годзе 17-гадовым падлеткам уступіў у польскае войска ў СССР у 1942-м годзе. А другі пасьля сяброўства ў Саюзе Беларускай Моладзі й службы ў Беларускай Краёвай Абароне падчас вайны ў Беларусі ўступіў у Армію генэрала Андэрса ў Італіі ў 1944-м годзе.

У чацьвёртым разьдзеле на 60 бачынах падаецца "Сьпіс урадж-жэнцаў Беларусі, якія загінулі й памерлі падчас службы ў польскіх узброеных сілах (1939-46 г.г.)". Там пададзеныя прозьвішчы, імёны, даты й месцы нараджэньня, чыны ў войску, даты сьмерці й мясцовасьці пахаваньня. Сьпіс гэты вельмі доўгі й пераглядаеш яго з сумам і сьлязамі на вачох, што столькі нашых людзей пакінулі гэты сьвет у далёкіх краёх. Такі сьпіс друкуецца ў Беларусі ўпершыню. Спадзяюся, што нашчадкі памерлых і загінуўшых змогуць з кнігі даведацца, дзе ляжаць ужо белыя косьці іхных крэўных.

У кнізе прыведзеная цікавая дэклярацыя беларускай інтэлігенцыі, адрасаваная Глаўнакамандуючаму польскімі войскамі й прэм'еру ураду генэралу Уладзіславу Сікорскаму ў Лёндан. Падпісалі яе людзі, якія толькі што выехалі з СССР і сьпяшаліся як найхутчэй задэкляраваць сваю ляяльнасьць да Польшчы й падзякаваць польскаму ураду. Яна аж роіцца ад нізкапаклонных выказваньняў. Чытаецца зь нясмакам і недаверам. Шкада толькі, што літары ня могуць чырванець! І хоць задуманая яна была ад імя беларускай інтэлігенцыі, але падпісалі яе вучыцелі, праваслаўны сьвятар, хлебаробы, краўцы й г. д. Сярод падпісантаў адзін расеец і шэсьць асобаў з Валыні. 38 асобаў з 60 паходзяць з Палесься.

Трэба падзякаваць аўтарам за доўгачаканую кнігу аб няшчасных беларускіх жаўнерах, якім нялітасьцівы лёс наканаваў ваяваць у чужых мундзірах, пад чужымі сьцягамі, за чужую (часам варожую) справу, у чужых краёх. Многія зь іх аддалі найдаражэйшае - сваё жыцьцё.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

---

**Ул. Конан. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі. - Мн.: Выд-ва "Про Христо", 2003. - 128 с. - 16 с. іл.**

З кніжных выданьняў, што апошнім часам выйшлі з друку і прысьвечаныя рэлігійнай праблематыцы, ёсьць некалькі, якія заслугоўваюць на пільную ўвагу. Адно зь іх - пра лідэра беларускага хрысьціянскага руху першай паловы XX ст. каталіцкага сьвятара Адама Станкевіча. Кніга выйшла напрыканцы леташняга году ў серыі "Бібліятэка часопісу "Наша Вера"". Аўтар - вядомы беларускі філёзаф і літаратурны крытык Уладзімер Конан. Манаграфія складаецца з шасьці разьдзелаў і распавядае пра жыцьцё, сьвятарскую, культурную ды грамадзка-палітычную дзейнасьць ксяндза Адама Станкевіча. Як ідэёляг беларускага каталіцызму кс. А.Станкевіч займае асобае месца ў гісторыі беларускага хрысьціянскага адраджэньня першай паловы XX ст. Аўтар фундамэнтальных манаграфіяў па гісторыі беларускага хрысьціянскага руху ў XXст., ён на працягу ўсяго свайго жыцьцёвага шляху самааддана служыў Богу і Бацькаўшчыне. У другой палове 40-х гадоў быў арыштаваны савецкімі ўладамі і высланы ў адзін з сібірскіх канцэнтрацыйных лягераў, дзе неўзабаве памёр. У падсавецкай Беларусі пра кс. А. Станкевіча і ягоную багатую тэалягічную, навуковую й грамадзка-культурную спадчыну ў лепшым выпадку маўчалі. Кніга Ул. Конана на падставе малавядомых архіўных матар'ялаў упершыню дае цэльны партрэт адной з ключавых постацяў беларускага хрысьціянскага й нацыянальнага адраджэньня ды аднačасна насьвятляе тэалягічныя й палітычныя аспэкты каталіцкага адраджэньня першай паловы XX стагодзьдзя. Варта адцеміць, што менавіта дзеячы беларускага хрысьціянскага руху такога маштабу як кс. Адам Станкевіч заклалі моцны духоўны падмурак адраджэньня нацыянальнага хрысьціянства. Думаецца, што й кніжка прафэсара Ул. Конана станецца для такога падмурку яшчэ адной важкай і патрэбнай цаглінай, каб сёньняшнія і наступныя пакаленьні беларусаў з надзеяй маглі глядзець у будучыню.




---

***Беларуская Міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. Мн.: "Беларусь", 2004. - 592 с.***

Нявялічкі калектыў прафэсыяналаў - С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч, Э. Зайкоўскі, Л. Дучыц, І. Крук, Ул. Лобач, А. Прохараў, Л. Салавей - зьдзейсьніў даўна чаканае ды патрэбнае: выдалі першую ў гісторыі нашае краіны міталягічную энцыкляпэдыю. Як піша ў прадмове ініцыятар выданьня, С. Санько, "задачаю аўтарскага калектыву было правядзеньне ў сыстэматызаваны выгляд і першасная інтэрпрэтацыя ў відалі такога цэлага, якім зьяўляецца традыцыйны беларускі Космас, вялізнага корпусу фактычных дадзеных, назапашаных фальклярыстыкай, этнаграфіяй і часткова лінгвістыкай на працягу больш чым двухсотгадовай зьбіральніцкай актыўнасьці". Аўтары слоўніка далі максымальна поўную на сёньня карціну пратабеларускай мадэлі сьвету. У кнізе знайшлося месца рэканструкцыям архіўных мітаў, павер'ям, старадаўнім прыкметам. Да кожнага артыкулу дадаецца бібліяграфія. "Слоўнік, - піша Санько, - мае справу з жывой яшчэ беларускай "антычнасьцю", якая не выглядае заняд-банаю і бляклаю ў параўнаньні як з культурамі старажытнасьці, што задаюць свайго кшталту эталён мітапаэтычнага (касмалягічнага) сьветаўспрыманьня, так і з культурамі сінхроннымі, генэтычна ці арэальна суаднеснымі з нашай. Можна, відаць, з поўным правам казаць пра нейкую спэцыфічную трантсэмпаральнасьць беларускай традыцыйнай культуры".




---

# Наша фанатэка

**"Tesaurus" - "Аднова тэзаўруса", Мн., 2004, "Parachia records"**



Пра гурт "Tesaurus" зь лютага пачалі актыўна пісаць многія газэты ня толькі Беларусі. Рэч у тым, што гурт, які прыкметна засьвяціўся на шэрагу салідных фэстываляў, выдаў свой яўна неардынарны дэбютны альбом. І вось, нарэшце, у нашых руках той таямнічы дыск, тытульную вокладку якога ўпрыгожваюць ня фоткі, не рэквізыты калектыву, а ёмісты сымбаль жыцьцёвай сутнасьці, складзены з мудрагелістага сьпляценьня літараў грэцкага альфабэту - "альфа і амэга".

Цікава, што гэты сымбаль выкарыстоўваў у сваёй творчасьці й наш знакаміты кампазытар на эміграцыі Мікола Равенскі, які нават паўстагодзьдзя таму свае дыскі ў Бэльгіі выпускаў пад лэйблам "Omega records". А ў наяўнасьці нейкай патаемнай повязі тут я пераканаўся, калі бачыў, як гітарыст гурта "Tesaurus" Зьміцер Гошка на адной з музычных імпрэзаў купляў найноўшы CD Міколы Равенскага "Магутны Божа".

Не, "Tesaurus" працуе ня ў плыні сымфанічнай ці камэрнай музыкі, як Мікола Равенскі. Гэта мэтал-бэнд. Але акурат магутны Божа іх і аб'ядноўвае. "Tesaurus" - хрысьціянскі рок-гурт. І справа ня толькі ў тым, што хлопцы добрую вестку нясуць хоць і ў жорсткіх рытмах, але і на беларускай мове. Гэта істотная прычына і вельмі прывабная ды арыгінальная, але ў дадзеным выпадку ўсё значна глыбей.

Ці ня раз вам даводзілася шукаць аргумэнты, калі недасьведчаныя беларусы абыякава сьцьвярджаюць: "Ну какая разница на каком языке?". Вось гурт "Tesaurus" і дае сваімі песьнямі аргумэнтаваны адказ на такія пытаньні.

Лідэр калектыву гітарыст Мікола Пташнікаў ня раз мне праводзіў у поўным філязофскім кантэксьце добра знаёмую ледзь не да банальнасьці выцінку з Бібліі пра тое, што нібыта "напачатку было слова". Дык вось зьвярніце ўвагу, у чым рэальны сэнс і што падкрэсьлівае цэнз загалоўных

*Працяг на бачыне 8*

# "Ахвяры" палітычнага перасьледу

Пасьля "аксамітавай рэвалюцыі" і мірнага разводу Чэхіі й Славакіі, прайшло 10 гадоў. І вось ужо хутка - 1 траўня - абедзьве краіны далучаюцца да Эўразьвязу.

Такі самы эўрапейскі, як чэхі ды славакі, беларускі народ ў 1994 годзе зрабіў свой выбар ў адваротным накірунку, выбраўшы прэзыдэнтам чалавека, які паабяцаў вярнуць народ у савецкае мінулае. Прайшло 10 гадоў. Дзе зараз Беларусь?

Спадзяюся, што прайшло дастаткова часу, каб людзі пераканаліся, што 10 гадоў таму яны памыліліся. Настаў час выпраўляцца. Раней ці пазьней рухне лукашэнкаўскі рэжым, і тады працэсы ў Беларусі пайдуць па агульначалавечым законам. Беларусь зойме свой "пачэсны пасад" паміж эўрапейскімі народамі.

Таму вельмі важным падаецца тое, хто павядзе Беларусь у цывілізаваны сьвет, і хто будзе яе прадстаўляць праз 10-20 гадоў. Адказнасьць за гэта нясуць старэйшыя, прызнаныя палітычныя і грамадзкія дзеячы, лідэры апазыцыйных партыяў і руху.

Дэмакратычныя краіны спрыяюць гэтаму. Напрыклад чэскі ўрад зацьвердзіў праграму падрымкі студэнтаў зь Беларусі, якія пацярпелі ад палітычнага рэжыму Лукашэнкі. Штогод у Чэхію прыяжджаюць 10 чалавек, каб прайсьці падрыхтоўчы курс дзеля паступленьня ў вышэйшыя навучальныя ўстановы гэтай краіны. На працягу году студэнты бясплатна вывучаюць шэраг прадметаў, чэскую мову, маюць неабмежаваны час дзеля працы на кампутары й карыстаньня інтэрнэтам. Ім таксама даюць ільготны праезд у грамадзкім транспарце і стыпендыю ў памеры $100. Ствараюцца ўсе ўмовы для навучаньня. Хто-ж яны, гэтыя студэнты, якім пашчасьціла прыехаць у чэскі горад Подэбрады? Чаму менавіта *яны? Які крытэры адбору кандыдатаў,* хто гэтым займаецца і хто адказны?

Напісаць гэты артыкул я быў па-просту абавязаны пасьля таго, як пазнаёміўся зь некаторымі "нашымі" студэнтамі. Ды даведаўся шмат цікавага.

У 2003 годзе чэская Прага была цэнтрам сьвяткаваньня Дня Волі. 25 сакавіка на ўрачыстай імпрэзе прысутнічалі народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў, Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, шмат іншых ганаровых гасьцей. Арганізатары зрабілі ўсё, каб як мага больш беларусаў Чэхіі даведаліся і прысутнічалі на сьвяткаваньні. Шмат хто зь іх самыя пісалі й тэлефанавалі напярэдадні па інфармацыю. Некаторых-жа наадварот трэба было знаходзіць ды запрашаць спэцыяльна. Сярод такіх былі некаторыя студэнты з Падэбрад. Вось, напрыклад, дзяўчынкі зь Менску - Алёна Гацкевіч і Ганна Губейка. Абедзьве прадстаўляюць тут БСДГ. Што такое ўвогуле сацыял-дэмакратыя, уяўляюць сабе цьмяна. Ды й адкуль яны будуць ведаць аб палітыцы й палітычнай сытуацыі, калі іх гэта не цікавіць і не хвалюе. Дастаткова таго, што добра ва ўсім разьбіраюцца іхныя бацькі. Мама Ганны - Сьвятлана Губейка - працуе сакратаром у Станіслава Шушкевіча. Дарэчы ў Чэхіі па гэтай-жа праграме вучыцца яе другая, малодшая дачка - Валя. Бацька Алёны Гацкевіч уваходзіць у кіраўніцтва партыі. Пасьля школы ў 2001 годзе яго дачка была адразу адпраўленая ў Чэхію, бо на Радзіме яна ўжо "не магла вучыцца" пасьля таго, як адзін (1) раз разьнесла па скрыням улёткі "Зубра". Затое зараз вучыцца ў інстытуце трапічнай сельскай гаспадаркі. А ці захоча будычы спэцыяліст па вырошчваньню бананаў вярнуцца ў Беларусь? Па яе словах, "пэрспэктываў там няма".

Вось Ілона з Салігорску ніякай партыі не прадстаўляе. Гэта робіць яе мама. Яна ў дзяўчыны не абы хто, на верасень 2002 году ўзначальвала гарадзкую арганізацыю АГП. Увесь час, напэўна, аддавала партыйным справам і гісторыка-палітычным выхаваньнем дачкі зусім не займалася, бо тая нават асноваў беларускай гісторыі не ведае. Давялося ёй нешта распавесьці , у тым ліку і адказаць на пытаньне "хто такі Іванка Сурвіл". Як казала сама Ілона, шанец паехаць за мяжу атрымала ад менскага кіраўніцтва ў якасьці "поощерения за мамину хорошую работу в партии".

Ларыса Агаркава - сама шчырасьць. На пытаньне партыйнай прыналежнасьці адказвае: "Можа быць і ад Маладога Фронту, ня ведаю. Гэтым займалася мая мама. Яна ўваходзіць у нейкую партыю." Дома Ларыса скончыла на выдатна 1 курс матфаку БДУ. Напэўна, разумная і адукаваная дзяўчына, бо на пытаньне аб тым, чаму не карыстаецца беларускаю моваю, адказвае: "Только на русском языке можно выразить всё то, о чём думаешь". Больш пытаньняў няма.

Сьвятлана Гвазьдзіцкая зь Менску. Як і папярэднія яе сяброўкі, беларускаю моваю валодае кепска, гісторыю ня ведае ўвогуле. Прабачце мяне, але "што гэта за сьвята 25 Сакавіка?" Дзеці дашкольнага ўзросту ў нармальных бацькоў ведаюць. Да якой партыі яна сябе адносіць, залішне было ўжо пытаць. Лепш адразу пра бацькоў. На зьдзіўленьне, партыйнымі ці грамадзкімі босамі яны не былі. Проста бацька з добрых адносінах з партыйным сакратаром усё таго-ж Станіслава Шушкевіча. А паколькі ў партыі фінансавыя праблемы, Гвазьдзіцкія аказалі дапамогу ў памеры $200 - і Сьвятлана мае партыйны білет і падпору ў конкурсе.

І апошні прыклад , які выходзіць за ўсе рамкі. Аляксей. Прозьвішча, нажаль, даведацца ня змог. Калі вышэйзгаданыя дзяўчыны яшчэ падлеткі, якія ня маюць сваіх перакананьняў, шмат у чым не разьбіраюцца і ня ведаюць, скажам так, жыцьця, да таго-ж, даволі балбатлівыя, то Аляксей - асоба ўжо сфармаваная. Прыехаў па той-жа праграме, што і астатнія, толькі ўжо пасьля заканчэньня ВНУ ў Беларусі. Таму лічыць сябе разумным і адукаваным. Мэта ў Чэхіі - дактарантура па юрыспрудэнцыі ў адным з прэстыжных унівэрсытэтаў. Беларуская мова для яго - ня мова. 25 Сакавіка - прыдумка БНФаўцаў. Адукаваны юрыст сьцвярджае, што менавіта "Лукашэнка - адзіны законны прэзыдэнт, які столькі карыснага зрабіў для Беларусі, і зрабіў-бы болей, каб адмарозкі з апазыцыі яму не перашкаджалі. Усё, што робіць Лукашэнка - ён робіць "па канстытуцыі, не парушаючы ніводнай міжнароднай нормы". Фініш. Прыехалі.

Цікава, хто даваў яму рэкамендацыю? Ад якой апазыцыйнай структуры ён прыехаў? На шчасьце, ён нікуды не паступіў і вярнуўся ў Беларусь.

Я адмыслова ўзгадваю сапраўдныя і нескарочаныя імёны студэнтаў, каб ня быць абвінавачаным у паклёпе.

Здаецца, гэта яшчэ адзін з цэлага шэрагу смутных прыкладаў таго, чаму сёньня ў Беларусі народ далёка не заўсёды падтрымлівае апазыцыю... Сорамна за Дзяржаву і за тыя дэмакратычныя ідэялы, дзякуючы каторым нас яшчэ гатовыя пазытыўна ўспрымаць на захад ад Бярэсьця. Сорамна і трэба нешта рабіць.

*P. S. Дзеля таго, каб хутчэй знайсьці адказы на вышэйпастаўленыя пытаньні гэты артыкул будзе перакладзены на чэскую мову і надрукаваны ў чэскім друку.*

**Аўген СІДОРЫК,**

***Старшыня Зьвязу Беларусаў Замежжа, Прага***

## Вясна Народаў

*Працяг з бачыны 4*

ніцца ад "пралетарскага інтэрнацыяналізму" чырвонай Масквы.

Беларуская рэвалюцыя завяршылася гераічным Слуцкім Збройным Чынам. Камэнтатары стварылі вобраз, рамантычны й узьнёслы, але не адпавядаючы гістарычнай праўдзе: "Яны ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына..." Душа не прымае гэтую штучную лірыку. Случчакі выступілі на сцэне гісторыі не як гладыятары, яны прадэманстравалі беспрыкладную палітычную сьпеласьць і вайсковае майстэрства. Палкамі камандавалі прафэсыйныя вайскоўцы. Панаваў не адчай, а баявы дух. Яны ішлі змагацца і жыць, каб жыла Бацькаўшчына. Панарама Вясны Народаў дае прыклады ня менш, а можа яшчэ больш складаных сытуацыяў. Так, аддзелы балтыйскіх немцаў і расейцаў пад камандаю авантурніка Бэрманта захапілі палову Латвіі й Рыгі. Фронт стаяў на Дзьвіне. Але латышы адбіліся і вызвалілі сваю краіну. Успомнім "цуд на Вісьле" ў 1920 годзе, калі палякі ўжо на подступах да Варшавы разьбілі арду Тухачэўскага. Вагі гісторыі хісталіся ў тыя гады нечакана і, сапраўды, цудоўным чынам.

Тую Вясну Народаў можна параўнаць толькі з падзеямі канца 1980-х - пачатку 90-х г.г. Калі ўвосень 1988 году мы ўтварылі Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", ішлі на першыя акцыі, пачыналі ўсьведамляць сябе нацыяналістамі й адраджэнцамі, ці маглі мы ўявіць сабе, што ўжо праз год у выніку ў тым ліку і нашых дзеяньняў вызваляцца ад камуністычнай заразы й савецкарасейскай акупацыі Чэхаславаччына, Вугоршчына, Усходняя Нямеччына, Баўгарыя... Што праз два з паловаю гады пачнецца развал саўдэпіі, і будзе абвешчаная незалежная Беларуская Дзяржава? Народная салідарнасьць і пасьлядоўная барацьба падпарадкавалі сабе гістарычныя тэндэнцыі. Немагчымае стала магчымым. Беларуская рэвалюцыя мае свой багаты досьвед. Наша рэвалюцыя працягваецца. І наперадзе ў нас - перамога.

**Валеры БУЙВАЛ**

## Ліст ў рэдакцыю

# БКА - 60 гадоў

6 сакавіка 1944 году Прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады праф. Радаслаў Астроўскі выдаў загад аб арганізацыі Беларускай Краёвай Абароны. 10 сакавіка была абвешчаная ўсеагульная мабілізацыя, і тысячы хлопцаў дабраахвотна пайшлі на змаганьне з ворагам. Неадкладнаю мэтаю Беларускага войска была абарона насельніцтва ад варожага тэрору, самавольства чырвоных партызанаў, а галоўнаю - аднаўленьне і захаваньне незалежнай беларускай дзяржавы ў межах паводле Акту ад 25 Сакавіка 1918 году.

Жаўнеры БКА ў цяжкіх баёх адважна выявалі з акупацыйнай Чырвонай арміяй, але пад ейным ціскам былі вымушаныя адыходзіць на Захад. Насуперак сьцвярджэньням савецкіх "гісторыкаў", ваяры БКА не ўчынялі злачынстваў супраць мірнага насельніцтва. Як пісаў Зьміцер Касмовіч (1909-1991), удзельнік вызвольнага руху: "Беларускія Збройныя Сілы ніколі ня прыймалі ўдзелу ў ніякіх зьнішчальных акцыях, а спробы немцаў пры адступленьні перакінуць некаторыя часткі БКА на заходні фронт, напаткалі востры пратэст БЦР і рашучае супраціўленьне гэтых частак. Беларускіх афіцэраў і жаўнераў не запалохалі ні расстрэлы, ні нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры. Пры першай нагодзе гэтыя вайсковыя часткі пераходзілі на бок заходніх сілаў". Пасьля чарговай акупацыі Беларусі Чырвонай арміяй у нашай краіне працягваўся партызанскі ўзброены супраціў. Але савецкая машына была занадта моцнаю. Захад не захацеў дапамагчы супраціўленцам, і Ўсходняя Эўропа на 45 гадоў патрапіла пад маскоўскі дыктат.

Лёс ваяроў склаўся па-рознаму. Камусьці пашанцавала патрапіць на Захад, дзе многія сталі актыўнымі дзеячамі беларускай эміграцыі. Значна менш пашанцавала тым, хто застаўся на Радзіме. Вялікая колькасьць іх за "предательства савецкай родзіны" патрапіла ў канцлягеры НКУС або адразу атрымала найвышэйшую меру пакараньня.

Нажаль, сёньня ў Беларусі ня вельмі шануюць жаўнераў нацыянальна-вызвольнага фронту. Прычына, ведама, у тым, што ў савецкія часы афіцыйная прапаганда закляйміла іх як "здраднікаў беларускага народу", "калябарантаў" і "фашыстаў". Тыя бальшавіцкія догмы цяпер пераняла і прапаганда лукашэнкаўская, якая яшчэ і выкарыстоўвае гэтае ашуканства каб дыскрэдытаваць у вачох народу сваіх апанэнтаў, якія намагаюцца аднавіць гістарычную праўду. Але-ж дастаткова пачытаць успаміны былых камбатантаў, каб адразу пераканацца, што яны йшлі змагацца не за нямецкага фюрара і ягоныя ідэі, а за волю і незалежнасьць сваё Айчыны, за дэмакратычную нацыянальную дзяржаву беларусаў, якая-бы ахоўвала інтарэсы беларускай нацыі. За Беларусь, свабодную ад крываваў бальшавізму, Беларусь, роўную зь іншымі краінамі сьвету.

Супрацоўніцтва зь немцамі было вымушанаю мераю, бо гэта была адзіная надзея перамагчы бальшавізм.

Прапануў зрабіць 6 сакавіка нацыянальным сьвятам. У гэты дзень шануйма памяць ня толькі жаўнераў БКА, але і іншых змагароў супраць бальшавізму - ваяроў Беларускае Самааховы, Саюзу Беларускай Моладзі, І-га Беларускага Штурмовага Зьвязу, беларускіх батальёнаў - усіх, хто да і пасьля Другой сусьветнай вайны даваў адпор савецкай акупацыі.

Я хачу шчыра падзякаваць усім, хто падчас той вайны ды ў іншыя часы змагаўся за свабоду нашай Бацькаўшчыны. Віншую Вас са сьвятам беларускага легіянэра! Вечная слава і пашана камбатантам! Не забудзьма герояў! Жыве Беларусь!

***Юрась МІХЕД***

## ЗВАРОТ

**Рады Беларускае Каталіцкае Місіі ў Ангельшчыне**

Сёлета спаўняецца 90 гадоў зь дня нараджэньня выдатнага рэлігійнага і грамадзкага дзеяча біскупа **Чэслава Сіповіча** (1914-1981). Першы беларускі каталіцкі біскуп за амаль два стагодзьдзі, ён быў аддзаны беларускай справе і стаяў ля вытокаў большыні беларускіх арганізацыяў у Вялікабрытаніі.

У гонар юбілею, мае выйсьці кніга "Біскуп Чэслаў Сіповіч - сьвятар і беларус," напісаная а. Аляксандрам Надсонам, паплечнікам біскупа на працягу амаль сарака гадоў. Гэтая кніга - ня проста біяграфія. Яна - сапраўдны дакумант эпохі, зь якога паўстае складаная гісторыя беларускае Царквы й нацыянальнага жыцьця на чужыне. Кніга далёкая ад апяваньня герояў. Заснаваная на мностве архіўных дакумантаў, яна праўдзіва апісвае драматычныя лёсы беларусаў на выгнаньні. Гэты твор стане ўнікальнаю зьяваю ў беларускай гістарыяграфіі.

Рада Беларускае каталіцкае місіі ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з прозьбаю паспрыяць выданьню кнігі. Мы просім накіроўваць вашыя ахвяраваньні на імя **Belarusian Mission Council**, на адрас скарбніка Рады сп. Паўла Шаўцова: **32 Cardrew Close, London N12 9LE, ENGLAND**

***Старшыня рады Караліна МАЦКЕВІЧ***

# Міхась НАЎМОВІЧ
## (03.10.1922 - 04.03.2004)

У Вэльпэне, пад Парыжам, памёр 4 сакавіка 2004 году сябра Рады БНР Міхась Наўмовіч, актыўны дзеяч беларускага замежжа. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1922 году ў вёсцы Кашалёва на Навагрудчыне. Быў сябрам Саюзу Беларускай Моладзі. У складзе францускага Супраціўленьня ваяваў з нацыстамі. Пасьля вайны апынуўся на эміграцыі ў Францыі.

Яшчэ на Навагрудчыне, вучыўся ў мясцовага мастака Рамашкевіча. З 1949 году - навучэнец Вышэйшай Мастацкай Школы аддзяленьня скульптуры. У той-жа час М. Наўмовіч быў сярод заснавальнікаў у Парыжы "Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ў Францыі", сябры якага бралі ўдзел ва ўсіх урачыстасьцях і мерапрыемствах; выдавалі часапіс "Моладзь", рабілі ўсё магчымае, каб спрычыніцца да пашырэньня ў сьвеце ведаў пра Беларусь.

Пасля заканчэньня Мастацкай Школы М. Наўмовіч, каб палепшыць матар'яльнае становішча, пайшоў вывучаць фізіятэрапію. Бо калегі-мастакі, якія ня мелі іншых спэцыяльнасьцяў, працавалі тады, каб пражыць, начнымі вартаўнікамі.

Ежы Гедройць, рэдактар ведамага парыжскага польскага часапісу "Kultura", прапанаваў М. Наўмовіча для ўдзелу ў навуковай канфэрэнцыі пра нацыянальную самасьвядомасьць народаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, якая адбылася ў Вільні ў 1997 годзе.

На вуліцы Гравільё, амаль у цэнтры Парыжу, ёсьць "беларуская хатка". Там месьціцца найстарэйшая зь дзейсных арганізацый беларускае дыяспары ў сьвеце Саюз Беларусаў Францыі "Хаўрус", які ўзначальваў Міхась Наўмовіч. Ён спалучаў творчасьць з выкладаньнем, кіраваў "Хаўрусам". Яго малюнкі й скульптуры ўпрыгожваюць францускія касьцёлы й сьцены дамоў.

***Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"***

## Наша фанатэка

*Працяг з бачыны 6*

літараў цытаты: "Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў Бога спрадвеку. Усё праз Яго сталася й без Яго нічога не было з таго, што сталася" (І-шы разьдзел Сьв. Эвангельля паводле Яна ў перакладзе Антона Луцкевіча).

Так, адносіны да Слова, да Мовы, якую даў сам Бог (а ня чыйсьці ўказ) вызначальныя ў структуры нацыянальнага тэзаўруса. Але які тэзаўрус даў Бог усім народам раўнамерна?

*Мову і веру продкаў,*
*Памяць зямлі тваёй,*
*Маці, сумленьне, годнасьць -*
*Гэта тэзаўрус твой.*

А ў песьні "Асэнсаваньне Веры" само жыцьцё пададзена як "чыну і слова важкі ланцуг", ігнаруючы які людзі будуць у бядоце, як згубіўшыя ключ ад багацьцяў:

*Слова - гэта твой дух і сэнс,*
*Яно штодзённа з табой.*

А потым і вызначыць, з кім паяднаюць цябе адносіны да Слова:

*Зь пеклам ці вышняй гарой...*

Тэксты тэкстамі, іх у альбоме каля двух дзесяткаў, але нельга не сказаць і пра самую музыку, якая нарадзілася ня ў п'яных клюбных хаўрусах, а ў штодзённых напружаных рэпэтыцыях. Ды, відаць, і Бог не пашкадаваў ім (Міколу Пташнікаву, клявішніку Арцёму Крышчановічу, вакалісту Віктару Козелу, басісту Паўлюку Сучынскаму, бубнару Алесю Валошчыку ды згаданаму раней Зьміцеру Гошку) таленту і натхненьня.

Знакаміты беларускі рок-крытык Анатоль Мяльгуй яшчэ летась так пісаў пра іх: "Музыкі ня проста граюць модную музычку, а сваім віртуозным майстэрствам і паэтычным увасабленьнем трывалых хрысьціянскіх пастулятаў рэальна працуюць на аднову нацыянальнага тэзаўруса беларусаў". Трэба ўлічыць, што гэта было сказана, калі гурт яшчэ меў назву "Армагедон". І акурат пасьля такой адзнакі, як сьцьвярджаецца ў буклеце новага выданьня, калектыў цьвёрда вызначыўся і з назваю гурта, і з назваю свайго першага альбому.

Варта дадаць, што "Tesaurus" мае зусім не традыцыйныя для Беларусі песьні жальбы ды плачу па страчаных каштоўнасьцях, а грунтоўнае філязофскае і эмацыйнае асэнсаваньне чалавечай сутнасьці.

Дарэчы, нягледзячы на нібыта сьціплы відарыс тытула вокладкі, буклет мае поўнаколерны друк, і вось, разглядаючы яго, я літаральна толькі цяпер упершыню ў фарбах надпісу "Tesaurus" убачыў сымбаль запечанай галгофскім сонцам крыві Хрыста.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

***На здымку: гурт "TESAURUS"***



# ДАР САКАВІКА

Дарагія Суродзічы! Штогод падчас сьвяткаваньня 25-га Сакавіка Рада Беларускай Народнай Рэспублікі зьвяртаецца да беларускага грамадзтва з заклікам скласьці ахвяраваньні ў Фонд "Дар Сакавіка". Гэтыя сродкі даюць магчымасьць Радзе БНР праводзіць у жыцьцё ідэю незалежнасьці Беларусі ды абарону ейнае дзяржаўнасьці.

Сёлета па сьмерці доўгагадовага Скарбніка Рады БНР сьв. пам. Віталя Кажана прапануецца даць большыя ахвяраваньні ў ягоны гонар. Прозьвішчы ахвярадаўцаў будуць зьмешчаныя ў "Беларусе".

Прадстаўнікі Фонду ў большых асяродках маюць падпісныя лісты. Просім зьвяртацца да іх. Ахвяраваньне таксама можна перасылаць поштаю. Чэкі выпісвайце на **"Friends of Belarus"** і шліце на адрас:

**Julia KAZAN, 2 Theresa Drive, Lawrenceville, NJ 08648**

***Рада БНР***

*Сям'я сьв. пам. Віталя Кажана - удава Люба, сын Аўген і дочкі Ларыса, Маргарыта і Юлія выказваюць сваё захапленьне тою пашанаю, якую выказалі ахвярадаўцы ды беларускае грамадзтва да нябожчыка і да ягонай адданай працы на карысьць любай яму Беларусі.*

**Віншуем шаноўнага Старшыню Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Зянона ПАЗЬНЯКА з 60-годзьдзем ды зычым добрага здароў'я, посьпехаў і памыснасьці ў працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны Беларусі.**

***Рэдакцыя газэты "Беларус"***

***Управа і сябры нью ёрскага аддзелу БАЗА***

29 сакавіка сьвяткуе 45-годзьдзе кіраўнічка Беларускай суполкі Швэцыі **Марыя СОДЭРБЭРГ** (Maria Soderberg) - ведамая фотажурналістка Швэцыі. Цікавасьць да Беларусі прыйшла да яе ў 1988 годзе, калі падчас працы ў Аўганістане яна сустрэла ў палоне хлопцаў-жаўнераў з Палесься, якія расьпавялі ёй пра цудоўны край-Беларусь. У 1997 годзе разам з польскім пісьменьнікам Рышардам Капусьцінскім Марыя наведала Пінск - роднае места журналіста. Вынікам вандроўкі стала кніга "Візыт ў Пінск". Тады-ж з посьпехам прайшла фотавыстава М. Содэрбэрг "Беларусь - адное падарожжа". У 2000 годзе адкрылася выстава "Пікнік", прысьвечаная праблеме правоў чалавека ў Беларусі. Зараз рыхтуецца выстава "Палесьсе". З 1998 году Марыя кіраўнічка суполкі "Беларусь" і рэдактар старонкі ***www.vitryssland.nu*** - адной зь зьмястоўнейшых на Захадзе, прысьвечаных Беларусі.

Па запрашэньню суполкі "Беларусь" Швэцыю наведалі Васіль Быкаў, Карлас Шэрман, Алесь Разанаў, Мікола Маркевіч, Павал Шарамет, Уладзімер Някляеў ды іншыя беларускія дзеячы. У 2003 годзе ёй быў падрыхтаваны кубак маладзёвай паэзіі ў Пінску. Перамоўжцы наведалі швэдзкі кніжны кірмаш у Гётэборзе. З парады Марыі шмат швэдзкіх грамадзкіх суполак знайшлі сваіх партнэраў у Беларусі. За апошнія 5 гадоў Марыя Содэрбэрг больш за 20 разоў наведала Беларусь. Яе артыкулы пра нашую Бацькаўшчыну надрукавалі буйнейшыя швэдзкія газэты.

Сярод бягучых праектаў у Беларусі - барацьба з СНІДАМ, правы жанчынаў, праблема наркотыкаў, дапамога творчай моладзі.

Газэта "Беларусь" шчыра віншуе вялікую сяброўку Беларусі й жадае ёй далейшых посьпехаў.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Г. і Б. Гайда | 50 |
| Ж. Дубяга | 50 |
| Ю. Лапіцкі | 50 |
| Б. Паўк | 50 |
| Б. і Т. Русак | 50 |
| М. Латушкін | 40 |
| К. Андрыеўскі | 30 |
| М. Вашкевіч | 30 |
| А. Ермакоў | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| Я. Кацярыніч | 30 |
| Я. Крэсла | 30 |
| А. Макарэвіч | 30 |
| П. Пер'еў | 30 |
| І. Рагалевіч | 30 |
| Я. Сіманюк | 30 |
| К. Харлап | 30 |
| Я. Яновіч | 30 |
| П. Грыгальчык | 10 |

**Заміж кветак на магілу Віталя КАЖАНА:**

| | |
|---|---|
| А. Субота | 100 |
| С. Дж. Брандон | 40 |

**Усім шчыры дзякуй!**

## НАПАМІН

Шаноўныя чытачы, калі Вы яшчэ не аплацілі падпіску на газэту "Беларус" на бягучы год, калі ласка, не адкладвайце, дашліце чэк у рэдакцыю як найхутчэй.

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
***Выдае штомесячна:***
***БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е***
**Сусьветнае сеціва:** baza-belarus.org
***Падпіска $30 на год.***
***Чэкі выпісвайце на BIELARUS***
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
***Published monthly by***
**BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
***Subscription $30 yearly***
***Make checks payable to BIELARUS***
***Рэдагуе калегія.***
*Адказны рэдактар*
***Марат Клакоцкі***
*Падпіска*
***Сяргей Трыгубовіч***
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*

**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org
ISSN-1054-9455
***Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.***